+тэлепраграма

№ 9 (271) 1 сакавіка 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Аднаўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## КУРБАН-БАЙРАМ
### Як гэта было ў Іўі

## З ВУЗЬЛІКАМІ Ў РОЦЕ
### Камэнтатары БТ на Алімпіядзе

## МІТЫНГІ Ў МАЛДОВЕ
### Лукашэнку ў Кішынэве сустрэнуць пікетамі

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# “Белавія” не пакіне лятаць

На пазамінулым тыдні Эўразьвяз абвесьціў аб намеры забараніць некаторым відам самалётаў, якія ствараюць зашмат шуму, карыстацца эўрапейскімі аэрапортамі. Гэта паставіла пад пагрозу існаваньне авіякампаніяў колішняга Савецкага Саюзу, якія карыстаюцца “шумнымі” ўкраінскімі альбо расейскімі машынамі.

“Белавія” таксама пацерпіць ад гэтае пастановы, але, як паведамілі карэспандэнту “НН” ў адміністрацыі “Белавіі”, сваёй працы яны ня спыняць. Міністэрства транспарту ўтварыла адмысловую камісію па перамовах з Эўропай у “самалётным” пытаньні. Адпаведную працу праводзяць пасольствы Беларусі.

Пэўныя посьпехі ўжо дасягнутыя, праўда ня намі. Расейцы змусілі эўрапейцаў пагадзіцца на тое, што ажыцьцяўляць чартэрныя рэйсы могуць і “шумныя” лятакі. Адзначым, што ня ўсе савецкія самалёты прызнаныя “шумнымі”. Эўрастандартам адпавядаюць Ту-154м, Як-40, Ан-24, магчыма, да іх далучацца яшчэ некаторыя маркі.

У нашай “Белавія” ўсяго 40 самалётаў — і “шумных”, і “ціхіх” разам. Праўда, ня ўсе яны здольныя лётаць. Сярод 27 “лятаючых” ёсьць і 4 “ціхія” самалёты Ту-154м. “Шумныя” машыны таксама ня будуць стаяць без працы. На іх беларусы будуць лётаць у краіны за межамі Эўразьвязу, прычым не абавязкова ў Таджыкістан і Буркіна-Фасо. Напрыклад, у Польшчу, якая дарма што зьяўляецца кандыдатам на ўступленьне ў ЭЗ, але абмежаваньняў па самалётнай шумнасьці пакуль не ўвяла.

Правілы Эўразьвязу падрываюць расейскі і ўкраінскі самалётны бізнэс, бо хто ж купіць іх тэхніку, калі на ёй нельга нікуды паляцець.

У зьвязку з гэтым паўстае пытаньне, якія самалёты купляць

Працяг на старонцы 3.



Партызанская містэрыя

Старонка 13.

# ЦЁТКІ
## веснавыя паштоўкі Адама Глёбуса

### 1993. Галіна Макарава і матацыкл

Артыстка Галіна Макарава ўсё жыцьцё грае на сцэне сялянак. Амплюа. Вынікае амплюа з жыцьця. Галіна — дачка афіцэра, які служыў у белай гвардыі і загінуў, баіцца, што яе выкрыюць. Дачку “ворага народу” могуць выслаць, могуць і забіць. Прымервае яна ў юнацтве вобраз вясковай дзяўчынкі. Ігра робіцца жыцьцём. Аднаго разу, яшчэ да пачатку другой сусьветнай, яна ледзь не выдае сябе. Вельмі хочацца пакатацца на матацыкле. Тата яе любіў тэхніку, любоў да тэхнікі, да мэханізмаў передалася й Галіне. А тут якраз спаборніцтвы, гонкі на матацыклах. Угаворвае Галіна знаёмых хлопцаў даць ёй паўдзельнічаць у гонках. Сядае на матор і выйграе гонку. Замест радасьці на Галіну нападае страх: зараз усе даведаюцца, што яна не сялянка, а шляхцянка. Уцякае і мэдаля не атрымлівае. Такую гісторыю з матацыклам распавядае мне геніяльная актрыса. Каб склалася адметнае амплюа, трэба больш, чым талент, — лёс трэба мецць.









### 2001. Вольга Іпатава і анёлы

“Каб над літаратаркай Вольгай Іпатавай лёталі ластаўкі, ты б усё адно сказаў: “Кажаны!” — жартавала паэтка Ганна. Няпраўда. Калі Вольга кажа: “Маладым трэба дапамагаць!” — слухаюся і дапамагаю. Хоць бы скідаю са сцэны п’янага Мясьнікова, які замінае ладзіць вечарыну маладой паэзіі.

### 2001. Зоя Луцэвіч і галубцы

Піт Паўлаў, гітарыст №1 у Беларусі, запрашае на вячэру. Пітава жонка — мастачка Зоя Луцэвіч — гатуе галубцы. Якія атрымліваюцца галубцы — смаката! П’ю я гарэлку, закусваю галубцамі, пра жывапіс гавару і не заўважаю, як адзін агорваю пляшку. “Ну і мужык, выпіў паўлітра і сядзіць гаворыць, як ня піў зусім”, — дзівіцца Зоя. Толькі справа не ўва мне і не ў гарэлцы, а ў жыцьцядайнасьці галубцоў. Калі чалавек здольны, ён ва ўсім таленавіты. Праўда, Зоіны галубцы мне падабаюцца крышачку больш за яе карціны.

### 2001. Вольга Караткевіч і тэлефон

Супрацоўніца радыё “Свабода” Вольга Караткевіч мае эратычны голас. Каму ні кажу — ня вераць. Голас як голас, жорсткі, мэталёвы, крохкі... Спрабую пераконваць. Не выходзіць. З такім голасам на інтымных тэлефонных лініях можна азалаціцца! Ха-ха-ха-ха! Доказ знаходзіца. Вольгу кахае бізнэсовец. Вядома, Вольгу любяць многія. Але гэты прагаворвае зь ёю па тэлефоне 2000 амэрыканскіх даляраў за месяц! Во які ў Вольгі голас!

### 1974. Сьвятлана Шчамялёва і каханьне

Выкладчыцу фізыкі Сьвятлану Шчамялёву так ці інакш кахаюць усе хлопцы ў мастацкай вучэльні. Маю на ўвазе тых, хто здатны на плятанічныя пачуцьці, пра жывёльную пажаду гаворка не ідзе. Бясспрэчна, у гэтым ёсьць заслуга яе мужа-мастака, які малюе жонку ў самых розных іпастасях, нават агаленую, і выстаўляе палотны ў Палацы мастацтваў.

### 1987. Жанна Лашкевіч і друк

Каго заўсёды прыемна сустрэць на вуліцы, дык гэта тэатральнага крытыка Жанну Лашкевіч. Яна такая румяная, усьмешлівая, жыцьцядайная... Міжволі радуешся. У нялепшую хвіліну жыцьця Жанна робіць мне выключную прапанову: “Літаратар заўсёды павінен мець трыбуну, каб выказацца. Калі ў цябе няма дзе надрукавацца, прыходзь да мяне, я надрукую цябе заўсёды”. Прыходжу, і яна публікуе маё эсэ пра бяздарнасьць белтэлебачаньня. Незабыўны момант.

### 1994. Раіса Баравікова і каханьне

З паэткай Раісай Баравіковай я знаёмлюся выпадкова ў аўтобусе “Менск—Мсьціслаў”. Яна едзе выступаць, а я — рэстаўраваць касьцёл. Запрашаю яе паглядзець фрэскі, і яна прыходзіць. Гадзіну я кажу пра баракальны жывапіс.

Працяг на старонцы 16.

## Вясна прыйшла

**27-га ўвечары ў Менску была навальніца.** Моцны дождж зьеў апошні сьнег. Усе, каму мы тэлефанавалі з рэдакцыі, чамусьці лічаць, што гэткія раньнія грымоты — дрэнны знак.

## навіны

### Нашчадак Грыцаўца абраны кіраўніком БНФ

**Днямі ў Баранавічах абралі кіраўніка Баранавіцкай гарадзкой суполкі БНФ “Адраджэньне”.** Ім стаў інжынэр заводу аўтаагрэгатаў Алесь Грыцавец, нашчадак лётчыка Сяргея Грыцаўца, двойчы героя Савецкага Саюзу. Той Грыцавец нарадзіўся ў Бараўцах (Баранавіччына), браў удзел у грамадзянскай вайне ў Гішпаніі і ў канфлікце на Халкін-Голе ў 1939 г. Усяго зьбіў 40 самалётаў. Трагічна загінуў у верасьні 1939 г.

### Памёр архіяпіскап Максім

**На 74-м годзе жыцьця памёр архіяпіскап Магілёўскі і Мсьціслаўскі Максім.** Слаўны ён быў тым, што спрабаваў на пачатку 90-х арганізаваць Праваслаўную партыю, пакуль Філарэт яму гэтага не забараніў.

### Павышэньне мінімалкі

**З 1 сакавіка мінімальны заробак у Беларусі вырасьце з 10 да 17** тыс. рублёў.

Б.Т.

**Наступны нумар “НН” выйдзе 15 сакавіка, у пятніцу.**

# Хлеб напалам з ружамі
*Зь дзёньніка канадзкай імігранткі*

Пошук працы па спэцыяльнасьці выглядаў не такой і безнадзейнай задумай, бо адных расейскамоўных газэтаў у Таронта выдаецца больш за дзясятак. Першае ж знаёмства з расейскамоўным канадзкім друкам выклікала дадатковы прыліў аптымізму: авой, колькі ж там памылак! Паціраючы рукі у прадчуваньні неабсяжнай працы, я за пару гадзінаў набрала на суседзкім кампутары сваю працоўную біяграфію (”рэзюмэ”, як тут кажуць), напісала там пра шматгадовы досьвед рэдагаваньня і карэктаваньня тэкстаў на розных мовах і разаслала лісты ва ўсе расейскамоўныя рэдакцыі. Ледзяное маўчаньне было мне адказам. Потым мне растлумачылі, што “рэдакцыя” ў эміграцкіх газетах часьцей за ўсё складаецца з мужа ды жонкі альбо двух швграў, газэта зазвычай робіцца ў бэйсмэнце (цокальным паверсе) ўласнага дому, і галоўнае яе прызначэньне — зьмясьціць як мага больш рэклямы (да 70—80% газэтнай плошчы). На нешматлікія вольныя месцы папросту скачваюцца тэксты зь Інтэрнэту. Дарэчы, мясцовая рэкляма — гэта часам маленькія шэдэўры: “*Всемогущая ясновидящая гадалка… Помогаю при импотенции, в иммиграции*”; “*По воскресеньям в*



*нашем ресторане играет оркестр. В репертуаре — ВСЁ!*”.

Карацей, я вельмі хутка зразумела, што прабіцца ў шэрагі эміграцкіх расейскамоўных журналістаў мне ня сьвеціць. Не ўстрымалася, праўда, ад дробнай помсты: прачытала некалькі асабліва грыбных газэтаў з маркерам у руках і адаслала ў рэдакцыі наскрозь чырвоныя ад правак старонкі...

Але час ішоў, грошы памалу скончаліся, і я пачала шукаць ну хоць нейкую працу, якая б дазволіла ня кідаць заняткаў на курсах ангельскай мовы.

Працяг на старонцы 10.

## навіны гаспадарскія

**ПАДАТКОВЫЯ ОРГАНЫ** Беларусі маюць намер змагацца з фактамі выплаты зарплаты "ў канвэртах". У большай ступені гэтая барацьба закране прыватныя прадпрыемствы, паколькі дзяржаўныя такога, як правіла, не практыкуюць. У прыватнасьці, увага будзе зьвяртацца на факты, калі асобныя прадпрыемствы быццам бы не выплачваюць заробку сваім супрацоўнікам.

**ПЫТАНЬНЕ ПРА ЎВЯДЗЕНЬНЕ** ў Беларусі адзінай стаўкі падаходнага падатку знаходзіцца ў стадыі абмеркаваньня. Гэтая стаўка, у выпадку прыняцьця, ня будзе адпавядаць расейскай.

**ПЭНСІІ МОГУЦЬ ЗАТРЫМАЦЬ** у сакавіку. Каб сплаціць іх, пакуль бракуе грошай, бо шмат якія прадпрыемствы ня робяць складак у пэнсійны фонд.

**ІЛЬГОТНЫЯ КРЭДЫТЫ** на адукацыю ў хуткім часе запрапануюць студэнтам беларускія банкі. Найбольшы крэдыт ня будзе перавышаць 70% ад кошту навучаньня, разьлічвацца за пазыку можна будзе 10 гадоў.

**СЯРЭДНІ ЗАРОБАК** у студзені склаў 99,3 даляра, ці на 4,5 даляра меней, чым у сьнежні.

**ІЛЬГОТЫ НА ПРАЕЗД** у грамадзкім транспарце скасуюць ужо сёлета. Цяпер імі карыстаюцца больш за 50 катэгорыяў грамадзянаў.

**2,5 МЛН. АЎТАМАБІЛЯЎ** зарэгістраваныя на сёньня ў краіне. У ДАІ мяркуюць, што ў хуткім часе агульны аўтапарк павялічыцца на 10—15%.

**СЛУЦКІ БРОВАР** патрапіў у сфэру інтарэсаў расейскай кампаніі "Ачакава". Расейцы ўжо паабяцалі случчакам новае абсталяваньне коштам 30 млн. даляраў.

**У ПАСЁЛКУ БАРАВУХА** каля Наваполацку хочуць стварыць вольную эканамічную зону. Гэта мае зьменшыць беспрацоўе ў Баравусе, дзе жывуць збольшага былыя вайскоўцы.

**СКАРАЧЭНЬНІ** пройдуць на віцебскіх прадпрыемствах. Рабочых тэлевізійнага заводу "Віцязь" паменее на 420 чалавек, абутковай фабрыкі "Чырвоны Кастрычнік" – на 125, мясакамбінату – на 185 і г.д. Агулам скароцяць 3200 чалавек.

**ТАНЬНЕЕ ХЛЕБ** на ўсходзе Магілёўшчыны. Улады загадалі зьнізіць цэны ў Крычаве, Клімавічах, Касьцюковічах, каб стварыць канкурэнцыю расейскай прадукцыі. Адначасова на 1% павялічыўся кошт мукі вышэйшага гатунку, якую прадаюць у іншых раёнах вобласьці.

**ЗАМОЖНЫЯ БЕЛАРУСЫ** будуць аплачваць 65% сабекошту пуцёвак у санаторыі, а не 30%, як цяпер. Падвышку тлумачаць тым, што няма грошай, каб утрымліваць летнікі для дзяцей. Тры чвэрткі з 4 тыс. цяперашніх летнікаў патрабуюць тэрміновага капрамонту.

**МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ** пастанавіла, што спагнаньне з імпарцёраў піва закладавага кошту пляшак супярэчыць беларускаму антыманапольнаму заканадаўству. Гэтае рашэньне выгаднае найперш расейскім броварам.

**ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ "НАФТАНУ"** распачынаецца 20 сакавіка. Першымі акцыі прадпрыемства купяць ягоныя працаўнікі. Кожны зь іх можа купіць каштоўных папераў на суму ня болей за мільён рублёў.

**"БЕЛАРУСЬКАЛІЙ"** у студзені вырабіў прадукцыі на 20% меней, чым у сьнежні мінулага году. Цяпер за мяжой попыт на ўгнаеньні малы, таму і іхны экспарт зьменшыўся на 17 млн. даляраў.

**ЛІТВА** з 1 сакавіка ўводзіць абавязковае страхаваньне грамадзянскай адказнасьці для ўладальнікаў транспартных сродкаў.

**КАМПАНІЯ "БАЛТЫКА"** падала ў Маскоўскі міжнародны арбітражны суд пазоў аб вяртаньні ёй 10,5 млн. даляраў крэдыту, выдадзенага нашаму бровару "Крыніца" на паўгоду.

**Сяржук Іваноўскі**

# Карона каралеўства "Каміла"

**Пасьля кожнае Рок-каранацыі вядучы Анатоль Вечар заракаецца праводзіць яе налета. Аднак ягоным словам ужо даўно ніхто ня верыць. Яны ўспрымаюцца хутчэй як адна з традыцыяў акцыі. Сёлетнюю Каранацыю ў "Казе", як заўсёды, вялі Анатоль і Аксана Вечары, якія пераўвасобіліся гэтым разам у дактароў — ставілі дыягназы, выдавалі даведкі й бальнічныя "хворым на рок-н-рол".**

**Найбольш "рок-мэнзурак" (гэтак сёлета зваліся прызы) сабраў Зьміцер Вайцюшкевіч ("Традыцыі й сучаснасьць" і "Музыка году"). Пры за найлепшы тэкст атрымаў Леанід Дранько-Майсюк, зь якім Тодар на пару ствараў "Цацачную краму". Няцацачная "Крама" атрымала ўзнагароду за найлепшы альбом — "Хавайся ў бульбу", гурт "Палац" — за найлепшы кліп (да песьні "На турэцкіх палях"). Адкрыцьцём году стаўся "Імпэт" — пераможца сёлетняга Басовішча. А вось з "Рок-князёўнай" выйшла недарэчнасьць. Вэраніка Круглова падумала, што "мэнзурку" будуць даваць ёй, і ўжо пасьпела сказаць: "Дзякуй вам!" А выявілася, што прыз атрымлівае Дана з "Імпэту"... Ад "замежнага" спонсара Каранацыі, Беларускай рэдакцыі радыё "Палёнія", Алесь Навіцкі ўручыў журналісту Вітаўту Мартыненку спэцыяльны прыз за папулярызацыю польскай музыкі. Узнагароду за найлепшы музычны сайт атрымаў гурт "Любоў і спорт", які на канцэрт не зьявіўся. Спэцыяльным прызам *Музыкального журнала* быў адзначаны мэталёвы зборнік "*Hard Life-Heavy Music*". "Песьняй году" сталася "Мая краіна — Беларусь" гурту "Безь білета". Ягоны лідэр Віталік "Артыст" сказаў, што цяпер каманда завецца "*More*" і адрокся прызоў, раздаўшы выйгранае піва сваім прыхільнікам у партэры.**

**А вялікую карону атрымаў Алесь Суша, гаспадар буціка "Каміла" і натхняльнік праектаў "Сьвяты вечар" і "Я нарадзіўся тут". Гэта першы выпадак, калі рок-каралём зрабіўся не музыка, а прадусар. Дарэчы, "Нэйра-Дзюбель", які закрываў канцэрт, засьпяваў песьню "Скрыпка дрыгвы" з новага супольнага праекту на вершы Караткевіча, які рыхтуюць Суша і кампанія.**

**Сяргей Будкін**



IREX-PROMEDIA

*Рок-кароль'2001 — Алесь Суша. Вячаслаў Корань, лідэр "Улісу", наступным чынам адкамэнтараваў прысуджэньне кароны не музыку, а бізнэсоўцу: "Упершыню за восем гадоў узнагароду ўручылі аб'ектыўна".*

## лісты ў рэдакцыю

### Адважная і высакаякасная гульня

**Мае віншаваньні супрацоўнікам "НН" і ўсім заўзятарам-беларусам зь перамогай нашых хлопцаў над швэдамі 4:3. Гэта важна перадусім для нас, беларусаў, а не для правадыра. Можам, калі захочам, абыграць адну з найлепшых камандаў у сьвеце.**

Інтарэс да Беларусі ў Швэцыі за адзін вечар узрос на 1000%. Нехта пачаў з мапы, шукаючы, дзе такая краіна, нехта сеў за Інтэрнэт. Атрымаў колькі званкоў за вечар ад сяброў-швэдаў, якім я напярэдадні гульні казаў: "Вы, лютэране, ня верыце ў цуд, а мы — верым".

Сёньня на ўсіх станцыях мэтро Стакгольму — кароткі надпіс вялікімі літарамі: *"Fiasko Tre Kronor i matchen mot Vitryssland"* ("Фіяска швэдзкай каманды ў матчы супраць Беларусі") альбо "*Vitryssland vann över Sverige*" ("Беларусь абыграла Швэцыю"). Па ўсіх кутках Стакгольму відаць слова "Беларусь" — лепшае рэклямы няма.

Трэба аддаць належнае далікатнасьці швэдаў: усе камэнтары кажуць пра адважную і высокаякасную гульню Беларусі. Мяне павіншавалі ўсе (!) швэдзкія сябры, шмат тэлефанавалі ўчора адразу пасьля матчу.

Усё можна зрабіць, і краіну адбудаваць, трэба толькі даць веры, што гэта наша краіна і іншае няма.

**А.К., Упсала (Швэцыя)**

### Перамаглі гуляючы

**У гульні са швэдамі беларусам не было чаго губляць. І яны, раскутыя адсутнасьцю адказнасьці, паказалі свае сапраўдныя здольнасьці.** Маглі і гол прыгожы забіць, і абводку чатырох швэдаў адным гульцом-майстрам дрыблінгу паказаць, і шайбу пулялі ў швэдзкую браму амаль зь сярэдзіны поля. І хай сабе адзін з замежных камэнтатараў назваў наш чацьверты гол выпадковым: маўляў, шайба ляцела завысока і варта было галкіпэру швэдаў прыгнуцца... Трэці швэдзкі гол таксама быў забіты ў выніку памылкі Панкова... Гэта спорт, і прайграе той, хто памыляецца. Затое адзін чэскі камэнтатар сказаў, што беларускія хлопцы, маючы праблемы са складам каманды, гулялі на мяжы самаахвярнасьці. Іншы чэскі камэнтатар заўважыў, што на лаве запасных беларускай зборнай хакеісты ўвесь час бесклапотна сьмяяліся. Нашыя хлопцы пачалі верыць у сябе ўжо на лёдзе, сьмяяліся ня толькі на лаве запасных, але й пасьля галоў і перамаглі швэдаў, як кажуць, гуляючы.

Шмат дзесяцігодзьдзяў ніхто ня мог пахіснуць аўтарытэт і пазыцыі шасьці сусьветных грандаў хакею — ЗША, Канады, Расеі, Фінляндыі, Чэхіі і Швэцыі. Падчас усіх хакейных чэмпіянатаў сьвету і Алімпійскіх гульняў яны разыгрывалі між сабой паўфіналы і мэдалі. З 1954 г. толькі Швайцарыя двойчы займала чацьвертае месца на чэмпіянатах сьвету (1992 і 1998), а на Алімпійскіх гульнях з 1952 г. толькі каманда Заходняй Нямеччыны заняла аднойчы трэцяе месца (1976). Больш нікому не ўдавалася трапіць у паўфінал чэмпіянату сьвету ці Алімпійскіх гульняў. Беларусы зрабілі гэта! Цяжка назваць за апошнія гады нешта больш значнае для самасьцьвярджэньня ў сьвеце старой-новай краіны, зьняверанай палітыкамі і Чарнобылем.

Беларускія хлопцы на лёдзе ў Солт-Лэйк-Сыты бяз боек і гістэрык зрабілі для Беларусі і беларусаў больш, чым некалькі алімпійскіх мэдалёў у іншых відах спорту, больш, чым робяць зараз беларускія палітыкі і вайскоўцы. Яны вярнулі Беларусі і беларусам каліва надзеі на посьпех і ўпэўненасьці ў сваіх сілах.

Мы — у чацьверцы самых моцных.

Дзякуй!

**Сяргей Абламейка, Прага**

## камэнтар рэдакцыі

### Сур'ёзная справа

10 сакавіка ўрадавая камісія сканчае прыём прапановаў варыянтаў гімну Беларусі. І на 10-га ж заплянаваны альтэрнатыўны ўрачысты сход грамадзкасьці па прыняцьці гімну. Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, навукоўцы, грамадзкія дзеячы маюць намер вызначыць той твор, які стане, як мяркуецца, "Дзяржаўным гімнам Беларусі пасьля зьмены ўлады". Шкада было б, калі б дэмакратычная інтэлігенцыя паставілася да такое сур'ёзнае справы легкаважна і пахапліва.

Беларускія гімны вядомыя кожнаму адукаванаму чалавеку: гэта гімн БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", гімн беларусаў сьвету "Магутны Божа" і гімн нацыянальнага адраджэньня "Не загаснуць зоркі ў небе". Гэтым гімнам дзясяткі гадоў, яны асьвечаныя крывёю і малітвамі.

Калі ўрадавая камісія пойдзе насуперак чаканьням грамадзкасьці і прыме за дзяржаўны гімн песьню, за якой няма традыцыі, тады гістарычны гімн сапраўды мог бы быць яшчэ раз зацьверджаны — але не на сходзе інтэлігенцыі, а, напрыклад, на Ўсебеларускім сходзе.



# "Голас душы" гучыць

"Падпісваю *просьбу* аб аднаўленьні на "беларускім" радыё праграмы "Голас душы", толькі паважаючы рэдакцыю газэты, якая абрала менавіта такую форму звароту да радыёўраднікаў. Насамрэч *я патрабую* ад іх найхутчэйшага аднаўленьня гэтай адзінай праграмы, якую шчэ можна слухаць", — піша нам Віталь Кошалеў зь Менску. Пад ягонай просьбай-патрабаваньнем падпісаліся шчэ 3 чалавекі. Подпісы за аднаўленьне праграмы нам даслалі Рэгіна і Юры Козак, Тацяна й Арцём Анейчык і яшчэ 92 чалавекі зь Менску і Менскай вобласьці. Ян і Валя Патапенкі, Руслан Гародка і яшчэ 9 мазыранаў, Мікалай і Каміла Маліноўскія з Калінкавічаў, Мікола Жук, Генадзь Сарока, Віктар Арцем'еў і яшчэ 29 чалавек з Пружанаў выказваюцца за аднаўленьне праграмы. Казімер Кліпа, Зінаіда Хіхіч і яшчэ 3 чалавекі з Нарачы, Міхаіл, Натальля, Руслана і Надзея Фурсы зь Віцебску, Сяргей Мачэкін, Вікторыя Папова і яшчэ 5 чалавек з Магілёва даслалі нам свае подпісы за аднаўленьне праграмы "Голас душы".

Усяго за месяц збору на адрас рэдакцыі прыйшло 2008 подпісаў. Дзякуючы гэтаму, як і дзякуючы тым людзям, што зьбіралі подпісы ў касьцёлах, каталіцкая праграма аднавілася і гучыць штонядзелю. Таксама гэтым зборам подпісаў удалося паказаць уладам, што грамадзтва і пасьля выбараў не разгубленае, а гатовае абараняць свае правы і інтарэсы. Аднаўленьне каталіцкае праграмы паказвае, што ўлады гэта зразумелі. А тое, хто менавіта мае весьці каталіцкую праграму на радыё, гэта цяпер ужо справа самога Касьцёлу. 5 сакавіка гэтае пытаньне будзе вырашанае ў Пінску на ўнутранакасьцельным паседжаньні. Дзякуй усім, хто ўзяў удзел у акцыі салідарнасьці.

**Рэдакцыя**

## цытата тыдня

**Аляксандар Кулінковіч на Рок-каранацыі:** "Сапраўдныя патрыёты неабавязкова павінны нарадзіцца тут — яны мусяць тут памерці... Мы ["Нэйра-Дзюбель"] цяпер не такое быдла, як былі раней, і ў нашым новым альбоме будзе некалькі песьняў па-беларуску. З часам мы хочам гаварыць на гэтай мове".





“Наша Ніва” друкуецца толькі за Вашы грошы. Таму гэта Ваша газэта, незалежная газэта. Калі вы не падпішацеся, у газэты ня будзе грошай на выхад. Дык падпісвайцеся!

# да 20 сакавіка

Нагадваем нашым сталым чытачам, што цяпер падпіскаю газэта абыходзіцца таньней. Падпісная цана застаецца нязьменная (**1348** рублёў на месяц), а вось у шапіках “Белсаюздруку” наша газэта будзе каштаваць **400** рублёў ужо з наступнага нумару. І па меры інфляцыі гэтая сума будзе расьці далей.

Падпіску прымаюць ва ўсіх аддзяленьнях пошты да 20 сакавіка, на шапікі “Белсаюздруку” да 23 сакавіка.

### Пляны на Дзень Волі

**Сёлетнія мерапрыемствы, прысьвечаныя дню абвяшчэньня БНР, адбудуцца ў нядзелю 24 сакавіка.** Беручы пад увагу 120-гадовыя юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, удзельнікі сьвяткаваньня ўшануюць памяць песьняроў. А 12-й яны ўскладуць кветкі да помніка Янку Купалу, а потым рушаць на плошчу Якуба Коласа, дзе таксама адбудзецца ўскладаньне кветак. Тамсама будзе выкананы гімн “Магутны Божа”. А ў Купалаўскім сквэры плянуецца рок-канцэрт. Арганізатары ня будуць браць дазволу ў Менгарвыканкаме, бо на ўскладаньне кветак яго ня трэба.

**Б.Т.**

## “Белавія” не пакіне лятаць

Працяг са старонкі 1.

(ці наймаць) нам і ці варта набываць/арандаваць расейскія машыны. Тое, што самалётны парк краіны трэба абнаўляць, не аспрэчвае ніхто.

У каляўрадавых колах ходзяць чуткі, што Беларусь негалосна абавязалася купляць самалёты толькі ў Масковіі, але прадстаўнік “Белавія” абвяргае гэтую інфармацыю. Ён кажа, што мы не купляем расейскую тэхніку апошнім часам і, наагул, купляць расейскія машыны нам не выпадае ўжо хаця б таму, што яны нязручныя для нас з пункту гледжаньня ўмяшчальнасьці, бо разьлічаныя на занадта вялікую, як для нас, колькасьць пасажыраў. Цяпер “Белавія” разглядае магчымасьць узяцця самалётаў у лізынг у эўрапейскіх краінах (перш за ўсё называюць Вялікую Брытанію), але канкрэтных пагадненьняў яшчэ не дасягнута.

**Язэпат Змысла**

### навіны

### Трох будзе дастаткова

**“У Беларусі маюць быць тры тэлеканалы — першы, другі і СТВ, які павінен ператварыцца ў канал сталіцы і сталічнай вобласьці”.** Пра гэта заявіў Лукашэнка 26 лютага падчас узгадненьня кандыдатуры Рыгора Кісяля на пасаду старшыні праўленьня ЗАТ “Другі нацыянальны канал”.

### Навіцкі ў адпачынку

**Прэм'ер-міністар Беларусі Генадзь Навіцкі 27 лютага пайшоў у адпачынак, які працягнецца да 11 сакавіка.** Адпачываць прэм'ер плянуе на Нарачы разам зь сям'ёй. Даваць рады справам у гэты час будзе Андрэй Кабякоў. Цікава, што Ярмошын свой першы пасьля адстаўкі адпачынак правёў на Кіпры.

### МАП рэкамэндавала аднавіць

**Міжнародная арганізацыя працы падтрымала Альберта Яўменава, былога начальніка кампрэсарнай станцыі ялізаўскага заводу “Кастрычнік”** (Асіповіччына), які быў звольнены 3 гады таму за адмову ад удзелу ў суботніку. МАП, куды ён зьвярнуўся са скаргай, рэкамэндавала аднавіць Яўменава на працы з кампэнсацыяй страчанага заробку.

### Лыскавец у Каліфорніі

**ФБР знайшло беларускага скакуна з трампліну Андрэя Лыскаўца, які адмовіўся вяртацца з Солт-Лэйк-Сыці разам зь іншымі алімпійцамі.** Агенты даведаліся, што гэты няўдачнік Алімпіяды жывы, здаровы і знаходзіцца ў Каліфорніі. У Андрэя да канца сакавіка дзейнічае віза. і ягонае знаходжаньне на тэрыторыі ЗША не супярэчыць законам краіны.

**Б.Т.**

## Корбана шукаюць

Як распавялі сябры зьніклага Юрася Корбана, аніякіх вынікаў ягоных пошукі пакуль не далі. Пакватэрны абход дзясятку менскіх шматпавярховікаў і прыватнага сэктару блізу Чыжоўскага вадасховішча, адкуль былі зафіксаваныя Юрасёвы тэлефанаваньні да маці, не дапамог.

Крымінальная справа па факце зьнікненьня Юрася Корбана ўжо перададзеная з Віцебску менскім сьледчым. Маці Юрася Корбана таксама прыехала ў Менск, каб перадаць адкрытыя лісты генэральнаму пракурору Беларусі Віктару Шэйману і міністру ўнутраных справаў Уладзімеру Навуmаву.

Лёсам ачольніка “Контуру” цікавяцца і ў Камітэце фінансавых расьсьледаваньняў па Віцебску, куды Юрась Корбан 22 студзеня мусіў зьявіцца на допыт у справе неправамоцнага выкарыстаньня грантавых сродкаў. У камітэт апошнімі днямі пачалі выклікаць Юрасёвых калегаў. Пытаюцца ў іх, ці ведаюць яны што пра Корбана.

Тым часам зьявіліся зьвесткі, што бацькі Корбана прадаюць ягоную кватэру, што каля вакзалу.

**Ігнат Чакацкі**

### удакладненьне

Да артыкулу “Дзяржаўная злачынца”, надрукаванага ў “НН” ад 22 лютага, неабходна зрабіць колькі ўдакладненьняў. Па-першае, “падарункі” прэзыдэнту, перададзеныя ў гарвыканкам, падрыхтавала не Натальля Брэль, іх прынесьлі жыхары Рэчыцы (напярэдадні Малады Фронт заахвочваў іх да гэтага праз улёткі). Па-другое, перадавала іх не сама Натальля, а цэлая дэлегацыя, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі АГП, Маладога Фронту, “Зубра”.

працяг размовы

# Мастацтва магчымага

**Няма гаворкі пра пераацэнку ролі ППРБ, ягонай палітыкі і ягонага рэжыму. Таму няма гаворкі і пра супрацоўніцтва зь імі. Размова ідзе пра тое, што істотна зьмяніліся абставіны. Вулічная рэвалюцыя 96-га году ня мае працягу. Як не відаць і ніякага вызвольнага руху. Зь іншага боку, праваліліся спадзевы ППРБ на Крэмль, а таемныя расейска-нямецкія ўгоды былі выстаўленыя напаказ. У паспалітага люду надпісы “Где Захаренко” выклікаюць неразуменьне. Нікуды ня дзелася незалежнасьць, паболела мовы ў афіцыйных СМІ, паболела беларускіх кніг... Падобна, што настае іншы этап гісторыі.**

Пра супрацоўніцтва апазыцыі з уладамі ня кажуць ані ў ЗША, ані ў Швэцыі, ані ў Расеі. Гавораць пра спаборніцтва, суперніцтва. Гэта прынцыпова іншае, чым супрацоўніцтва і чым дзейнасьць “на паражэньне”. Нельга спаборнічаць, дэманструючы суперніку сваю лаяльнасьць. І нельга спаборнічаць, калі... Як казаў адзін карабахскі азэрбайджанец: “Нічога ня маю супраць армян, толькі хачу, каб іх не было”. Каб спаборнічаць, супернікі мусяць быць на адным палітычным полі, мець прыблізна аднолькавую вагу (нават калі ў кожнага яна складаецца з сваіх плюсоў) і ня мець на мэце забіць апанэнта, размазаць яго па падлозе.

Сапраўды, пра такія дачыненьні ў ранейшыя гады не магло быць і гаворкі. Улада набівала апазыцыянэрамі разьмеркавальнікі, а тыя падымалі навагоднія тосты “за снайпэра”. Так і жылі. Сёньня калі ня мэта, дык сытуацыя і ў першых, і ў другіх — іншая. Улада, бадай, ужо *ня хоча* ўціскаць апанэнтаў з ранейшай жарсьцю, а апазыцыя — *ня можа* з ранейшым імпэтам займацца зьвыклымі справамі пад абыякавыя погляды паспалітага люду.

Неўразуменьне выклікае найперш тая неадэкватная лексыка “на паражэньне”, якая так не пасуе сёньняшняму ў цэлым мірнаму характару працы апазыцыйных структураў. І гэта дэзарыентуе іх. Па-свойму дэзарыентаваная і аслабленая ўлада, бо страх гучнага арышту — кепскі стымул для працы і чыноўніка, і дырэктара прадпрыемства. Яны іншы раз і не адмовіліся б выказаць сваё “асобнае меркаваньне”, але няма ў іх таго заплечча, таго легальнага апірышча, якое б не дазволіла аступіцца ды ляцець адразу ў самую прорву. На тым полі, на якім яны гуляюць, няма *другога боку*.

Уявіце сабе стадыён, дзе на полі бегае адна каманда, а другая — хто дзе. Хто крыкам імітуе сваю зацятасьць з трыбун, а хто і з-за межаў стадыёну выгуквае пагрозы. Гульні не выходзіць. Ні ў тых, што за адсутнасьцю суперніка накідваюцца на сваіх калегаў, ні ў тых, што пакрыкваюць седзячы. Паспаліты люд паглядае на ўсё гэта без энтузіязму. І на закліку да Расеі — прыйсьці інтэгравацца, і на заклікі да Захаду — прыйсьці разабрацца.

Магчыма, Беларусь сапраўды торыць уласны шлях. Вынікам яго будуць знаёмыя нам дэмакратыя і незалежнасьць, свабода і эўрапейскасьць. Тыпы грамадзтваў тыя самыя, але прыходзяць да іх усе па-свойму. Па-свойму румыны, па-свойму чэхі, па-свойму мы.

Сіла нашай палітычнай альтэрнатывы сёньня зваротна прапарцыйная вартасьці тых каштоўнасьцяў, якія мы рызыкуем страціць дааста-чы. Вось тут і ўзьнікае гаворка не аб прымірэнчай пазыцыі ўладаў і апазыцыі, а пра іншы тып дачыненьняў. Папярэднія адносіны былі зададзеныя ППРБ, але трэба прызнаць, што давяршаў ён карціну ўжо разам з апазыцыяй, крайнасьці часьцяком сыходзіліся. Таму апазыцыя — суаўтар гэтага абсалютызму.

Выніку ў такога “спаборніцтва” няма. Гэта адзін *нуль* на дваіх. У краіне няма аніводнай уплывовай палітычнай партыі, а ўсе рэальныя палітычныя сілы зводзяцца да адной, якая дзейнічае пад рознымі ўплывамі. У такой сытуацыі няма і ня можа быць гаворкі, скажам, пра абарону правоў чалавека, якая сёньня зводзіцца да маніторынгу парушэньняў і да ўзбуджэньня замежнай думкі. Але ж гэта наша краіна, наша дзяржава, наш народ. І калі кажуць, што яны “ня нашы”, бо *не такія*, тады застаецца толькі чакаць, як сказаў адзін слабы палітычны тактык, “новых ідэй і актыўных людзей”, а пры тым словамі таго ж тактыка заклікаць “ня бойцеся выгляду крыві”. Чакайце, спадарства, і ня бойцеся. Толькі ж нешта ва ўсім гэтым ня так. Існуе ў сьвеце незалежная Беларусь зь яе аўтарытарным кіраўніком і мностам дэмпартыяў, якія кажуць пра немагчымасьць вяртаньня на радзіму Васіля Быкава, пакуль краінай кіруе Лукашэнка. Нейкі ў гэтай лёгіцы чыста беларускі завал. А яшчэ кажуць пра магчымасьць выраджэньня аўтарытарызму ў генацыд “іншародцаў”, таму, маўляў, нельга з Лукашэнкам братацца.

Гэта й ёсьць тая чорна-белая лёгіка, зь якой я спрабую вылезьці, думаючы пра спаборную палітычную сілу ў тым самым палітычным полі, у якім гуляе ППРБ. Менавіта тую сілу, якая створыць умовы для вяртаньня Быкава, якая забясьпечыць непарарастаньне аўтарытарызму ў генацыд, якая зробіць абарону правоў чалавека рэальнаю (г.зн., што і спаборны бок адкажа за злачынствы, але не ў Гаазе, як сёньня мараць апанэнты, а дома).

Прапанаваны мною прыклад Кангрэсу дэмакратычных сілаў у падтрымку лініі ўраду на незалежнасьць (а не Кангрэс у абарону незалежнасьці ад ураду) мог бы стаць пачаткам рэальнае апазыцыі — ужо ў гэтым, рэальным полі. Чаму б не прыйсьці на яго і прадстаўнікам намэнклятуры ці дырэктарату, якія маюць заўвагі да цяперашняе палітычнае лініі? Хай бы паглядзелі адзін на аднаго, сышліся ў думцы. Можа пасьля й ня сталі б гэтак лёгка здаваць адзін аднаго на Валадарку, адчувалі б заплечча таго Кангрэсу. Або намэнклятура, на якую паставілі ў гэтых прэзыдэнцкіх выбарах, — куды ёй ісьці, падтрымаўшы адзінага кандыдата? У вызвольны рух? У лес? Ці на Варвашэні, 8 — да ды-джэяў адраджэньня?

Магчыма, час такіх кангрэсаў толькі набліжаецца. Толькі ж ня будуць іх праводзіць Абрамава з Навасядам, бо чарговы Лукашэнкаў усебеларускі сход атрымаецца, хоць і “падмазаны”. Хто тады? Хіба й праўда нарастуць актыўныя людзі?

Факт застаецца фактам — апазыцыя мусіць увайсьці ў рамкі палітычнага працэсу і стаць легальнай, адкрытай сілаю. Альтэрнатыва адна — у лес. Праўда, пакуль апазыцыя выбераца ў лес, незалежнасьць можа растаяць як дым. Спадзевы на югаслаўскі варыянт марныя. Яго ніколі не падтрымае наш паспаліты народ. Захад нам таксама не дапаможа. І цяперашнія бясконцыя жарсьці па АБСЭ даўно набілі аскому.

Беларусь ажыве сабою. Яе поступ ня прыйдзе ані з Захаду, ані з Расеі, ані зь нябёсаў. Іншая рэч — як доўга яна будзе да гэтага ісьці, бо існуе ліміт часу. Як доўга яна будзе ўспамінаць Бісмаркаў афарызм пра палітыку як мастацтва магчымага?

**Сяргей Дубавец**

# Лепей за Нагана

Мы маем толькі адну "бронзу" — гэта менш, чым у Нагана ў 98-м, дзе было дзьве бронзы, і яшчэ горш за вынік Лілехамэру-94 (два срэбры). Але ў неафіцыйным камандным заліку мы выступілі хоць і горш, чым у 94-м (тады мелі 37 пунктаў), але лепш, чым у 98-м (20,5 пункта). Цяпер маем 30 пунктаў. Нашае месца было адпаведна 16-м і 20-м, а цяпер маем 19-е.

Зімовыя алімпіяды выяўляюць рэзкі кантраст паміж невялікай колькасьцю спартовых "супэрдзяржаваў" і астатнім сьветам. Чатыры гады таму Алімпіяда ладзілася ў Японіі, цяпер — на супрацьлеглым канцы сьвету, аднак пяцёрка наймацнейшых засталася той самай: Нямеччына, ЗША, Нарвэгія, Расея ды Аўстрыя.

За гэтай пяцёркай ідуць колькі моцных эўрапейскіх краінаў, Канада ды азіяцкія гіганты — Японія, Кітай, Паўднёвая Карэя. І вось такім чынам замыкаецца першая пятнаццатка.

Цікава параўнаць нас з астатнімі краінамі былога СССР (акрамя Расеі). У Лілехамэры мы былі найлепшымі, апярэдзілі Казахстан і Украіну. У Нагана быў правал: мы прапусьцілі наперад ня толькі дзьве гэтыя каманды, але яшчэ й Латвію. А вось цяпер мы вярнулі сабе пазыцыю адразу за Расеяй. Украіна здабыла толькі 13 пунктаў, Казахстан — 1 пункт, Латвія — 2 пункты. Добра выступілі толькі эстонцы — 25 пунктаў.

Вядома, што шмат якія спартоўцы ў зімовых відах прыехалі да нас, даўно ці нядаўна, зь іншых краінаў, найперш з Расеі. Дык вось, цікава было параўнаць, хто прынясе больш пунктаў. 19 чалавек родам зь Беларусі набралі разам 12,25 пункта плюс мэдаль, 19 чалавек родам з Расеі — 12,75. Яшчэ 5 пунктаў узялі нашыя хакеісты — усе яны, акрамя чатырох, родам зь Менску ды Віцебску. Так што трэнэры могуць больш давяраць сваім — яны, як мінімум, ня горшыя за "прывазных".

Няма магчымасьці "прайсьціся" па пэрсаналіях. Але асобная падзяка й хвала Зьмітру Дашчынскаму. Ягонае выступленьне і два пункты — подзьвіг.

На жаль, ёсьць і антыгерой. Гэта наш непараўнальны Ўладзімер Навіцкі, які гэтым разам трывала перайшоў на расейскую мову. Ці варта было ехаць аж гэтак далёка, каб пусьціць у этэр рэпартажы на мове, якой і так усюды хапае.

**А.U.**

## Камандны залік

**За 1-е месца налічваецца 9 пунктаў, за 2-е – 7, за 3-е – 6, за 4-е – 5, за 5-е – 4, за 6-е – 3, за 7-е – 2, за 8-е – 1.**

| Каманды | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | Пункты |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Нямеччына | 12 | 16 | 7 | 10 | 8 | 9 | 6 | 3 | 386 |
| 2. ЗША | 10 | 13 | 11 | 9 | 11 | 8 | 10 | 4 | 384 |
| 3. Нарвэгія | 11 | 7 | 6 | 7 | 4 | 5 | 5 | 8 | 268 |
| **4. Расея** | 6 | 6 | 4 | 7 | 6 | 10 | 8 | 6 | 231 |
| 5. Аўстрыя | 2 | 4 | 10 | 11 | 7 | 7 | 5 | 4 | 224 |
| 6. Канада | 6 | 3 | 8 | 7 | 4 | 5 | 6 | 7 | 208 |
| 7. Італія | 4 | 4 | 4 | 2 | 5 | 1 | 8 | 6 | 143 |
| 8. Швайцарыя | 3 | 2 | 6 | 3 | 2 | 5 | 3 | 3 | 124 |
| 9. Францыя | 4 | 5 | 2 | 1 | 4 | 3 | 3 | 2 | 121 |
| 10. Фінляндыя | 4 | 2 | 1 | 3 | 5 | 1 | 3 | 4 | 104 |
| 11. Галяндыя | 3 | 5 | 0 | 3 | 3 | 2 | 3 | 2 | 103 |
| 12. Кітай | 2 | 2 | 4 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 80 |
| 13. Швэцыя | 0 | 2 | 4 | 4 | 2 | 2 | 2 | 2 | 78 |
| 14. Японія | 0 | 1 | 1 | 3 | 5 | 5 | 3 | 8 | 77 |
| 15. Паўд. Карэя | 2 | 2 | 0 | 1 | 1 | 4 | 1 | 4 | 59 |
| 16. Чэхія | 1 | 0 | 1 | 2 | 2 | 0 | 2 | 3 | 40 |
| 17. Баўгарыя | 0 | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 0 | 37 |
| 18. Харватыя | 3 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 34 |
| 19. **Беларусь** | 0 | 0 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 30 |
| 20. **Эстонія** | 1 | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 | 1 | 1 | 25 |
| 21. Брытанія | 1 | 0 | 2 | 0 | 0 | 1 | 0 | 23 | |
| 22. **Польшча** | 0 | 1 | 1 | 1 | 0 | 1 | 1 | 0 | 23 |
| 23. Аўстралія | 2 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 1 | 22 |
| 24. Гішпанія | 2 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 0 | 21 |
| 25. Славенія | 0 | 0 | 1 | 0 | 1 | 1 | 1 | 1 | 16 |
| 26. **Украіна** | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 1 | 1 | 0 | 13 |
| 27. Ірляндыя | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 |
| 28. Бэльгія | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 1 | 5 |
| 29/30. **Літва** | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 0 | 0 | 4 |
| Славаччына | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 0 | 0 | 4 |
| 31. Ізраіль | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 0 | 3 |
| 32. Данія | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 1 | 3 |
| 33. **Латвія** | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 2 |
| 34/35. Вугоршчына | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 1 | |
| **Казахстан** | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 1 |

Заўвагі:
1. Разыгрывалася 78 камплектаў узнагарод.
2. Канадзкія фігурысты Джэймі Сале/Давід Пэлецье атрымалі другі камплект залатых узнагарод.
3. У мужчынскім лыжным спрынце бронза не ўручалася. Нарвэжцы Мас Альсгард і Фродэ Эстыл з аднолькавым вынікам перасеклі фінішную прамую. Фатафініш ня выявіў пераможцы. Абодвум уручана срэбра.

# Перамога стала ўсіхнай

## *Гутарка ў рэдакцыі "Нашай Нівы" з журналістамі Юрасём Бушляковым і Алегам Дашкевічам*

**"НН": Як Вы ацэньваеце выступ беларускіх алімпійцаў у Солт-Лэйк-Сыты?**

**Алег Дашкевіч:** Выступілі ў сваю сілу. Каб мець больш мэдалёў, трэба абсалютна іншыя ўмовы падрыхтоўкі спартоўцаў. Маглі б узяць на два мэдалі болей, а маглі ўвогуле нічога ня ўзяць. Адзін мэдаль — гэта нармальна, і ніякіх сьлёзаў ліць па гэтым ня трэба. Пагатоў што гэты мэдаль сумленна запрацаваны наймацнейшым фрыстайлістам сьвету, пераможцам алімпійскае кваліфікацыі Грышыным. Ніякім не "халяўшчыкам", дарэчы.

**Юрась Бушлякоў:** Мы цягам перадалімпійскіх месяцаў сутыкнуліся зь міталягізацыяй беларускага спорту, зь відавочным завышэньнем ягонага патэнцыялу. У Беларусі развіцьцё зімовых відаў заўжды ішло з натугаю, пры ўдзеле прылых людзей, якіх спэцыяльна запрашалі паасобныя віды падымаць. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова паглядзець, як беларускія спартоўцы выглядалі на агульным савецкім фоне. Мэдалёў на зімовых Алімпійскіх гульнях у нас заўсёды было няшмат, і гэтыя мэдалі — ня сьведчаньне, што тут была моцная школа біятлёну і канькоў. Былі моцныя індывідуальнасьці: Ігар Жалязоўскі, Сьвятлана Парамыгіна, Аляксандар Папоў, які для Беларусі з альбэрвільскай Алімпіяды 1992 г. прывёз срэбны мэдаль, але ўзнагарода была заваяваная ў эстафэце, дзе бегла зборная СНД.

**А.Д.:** Сродкі на развіцьцё спорту знаходзіць цяжка. Мы можам спадзявацца ў будучыні на фрыстайл, дзе ўжо склалася беларуская школа і ня трэба значных затратаў. Ён прымальны для спартоўцаў, якія займаліся раней акрабатыкай, гімнастыкай, лыжамі.

### А той Лыскавец і лыжаў ня меў

**Ю.Б.:** Беларускія чыноўнікі бачаць, што пры тым фінансаваньні, якое Беларусь можа сёньня даць спорту, рыхтаваць высакаклясных спартоўцаў — лыжнікаў, біятляністаў, канькабежцаў — цяжка, і адсюль размовы пра тое, што мы, маўляў, змушаныя будзем узмацняцца спартоўцамі другога зьвяна з Расеі, што сваіх біятляністаў мы выгадуем праз 10—15 гадоў, калі цяпер нармальна паставім навучальна-трэніравальны працэс, а выступаць нам трэба на найбліжэйшых чэмпіянатах сьвету ды на Турынскай алімпіядзе і паказаць больш-менш прыстойны вынік. Таму нам не выпадае чакаць вынікаў, лепшых за паказаныя на Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сыты.

Сьмяяліся з Андрэя Лыскаўца, які кепска скочыў, а пасьля ўвогуле ўцёк. А аказваецца, той Лыскавец і лыжаў нармальных ня меў аж да вылету на Алімпійскія гульні. Прыехаў у Солт-Лэйк-Сыты, убачыў трамплін, далі ірты, ён скочыў. Заняў месца ў пятым дзясятку.

**"НН": Дык мо зьменшыць наступным разам алімпійскую зборную? Напрыклад, нарвэжцы бяруць у Турын толькі тых, хто рэальна прэтэндуе на мэдалі.**

**Ю.Б.:** Нарвэжцам проста. Калі каманда мае дзясяткі прэтэндэнтаў на золата, то можна праігнараваць прэтэндэнтаў на чацьверты дзясятак.

**"НН": А як ацаніць выступ адзінага нашага мэдаліста Аляксея Грышына?**

**Ю.Б.:** Беларусь — фрыстайлічная краіна, пра гэта сьведчыць той факт, што тры беларускія атлеты трапілі ў дванаццатку фіналістаў. Такога розгаласу, як хакей, гэта зрабіць не магло, бо фрыстайл нашмат менш папулярны від спорту, але ўсё адно прыемна. Аляксей Грышын — не дэбютант, ён выйграў сусьветнае першынство і разглядаўся як адзін з галоўных прэтэндэнтаў на мэдаль. Магло быць лепей, але такі ўжо гэта від спорту — магчымае ўсё, што пацьвердзіў скачок аднаго з найбольш аўтарытэтных фрыстайлістаў сьвету Эрыка Бэргаўста, які папросту ўпаў і дапамог Грышыну застацца на п'едэстале.

**А.Д.:** У спорце, як і ў жыцьці, любая халява — напрацаваная. Да таго ж фрыстайл — адзін з самых небясьпечных відаў спорту, колькі там людзей зламалася ў спадзеве на халяву.

**"НН": Які вобраз стварыла Беларусь у Солт-Лэйк-Сыты сваімі спартоўцамі?**

**Ю.Б.:** Калі б не звышсэнсацыйная ўдача хакеістаў, не выпадала б гаварыць пра акрэсьлены вобраз Беларусі. Хіба можа быць вобраз, які вынікае з допінгавага скандалу вакол шорт-трэкаўкі Юліі Паўловіч і адхіленьняў ад гульняў маці-трэнэркі, доктара, а тады яшчэ й шэфа місіі ў сувязі з гэтай справай. Наступнага дня пасьля перамогі беларускай зборнай над камандаю Швэцыі я зайшоў на афіцыйны сайт Алімпійскіх гульняў і ўбачыў такія рэплікі: нарэшце сталі вядомыя чатыры паўфіналісты алімпійскага хакею. Гэта ЗША, Канада, Расея і... Беларусь. Пасьля гэтага аўтар матэрыялу пачынаў тлумачыць, што яна мяжуе з Расеяй, Польшчай, Латвіяй і Літвой, Украінай. Такім чынам перамога беларускага хакею сталася папулярызацыйнай для краіны. Беларусь загучэла для мільёнаў людзей у сьвеце, зважаючы на вялікую папулярнасьць хакею з шайбаю.

**"НН": Ці не была гэтая перамога сапсаваная буйнымі паразамі ад Канады і Расеі?**

**А.Д.:** Не. Па-першае, магчымасьці — фізычныя, фінансавыя, проста жыцьцёвыя — у іншых удзельнікаў фіналу значна лепшыя. Па-другое, гуляць у тры пяцёркі з канадцамі, амэрыканцамі альбо расейцамі, што замацаваліся ў НХЛ, — папросту нерэальна. Колькі было сілаў, столькі і змагаліся з тымі ж расейцамі: два пэрыяды была нармальная гульня, а трэці — усё ўжо, сталі, не было сілаў. Тое самае і з канадцамі.

**Ю.Б.:** У такіх гульнях, як хакей, перавага грандаў над усім астатнім сьветам прыкметная. Спадзявацца на два ці тры цуды наўрад ці можна было. Так што тым матчам яны паказалі вынік, пра які, магчыма, дзесяцігодзьдзямі будуць успамінаць беларускія заўзятары. Мы павінны быць аб'ектыўнымі, павінны добрым словам прыпомніць сыстэму алімпійскага турніру, якая дазваляе камандзе, што прайграла цягам другога тыдня тры матчы, змагацца за срэбра ці за золата, срэбра і бронзу.

Спорт, як ніякая іншая зьява сучаснага беларускага жыцьця, змог кансалідаваць грамадзтва.



Дапінгазаўры таксама ў шэрагу несумненных пераможцаў гэтых гульняў

Мне ня выпала сустрэць на мінулым тыдні ніводнага чалавека, які быў бы незадаволены нашымі вынікамі і адлучаў сябе ад гэтай перамогі. Перамога сталася ўсіхнай. Яна мела вялізнае кансалідацыйнае значэньне ўнутры самой Беларусі.

### Спрыту расейцам хапіла

**"НН": Як Вы ацэньваеце скандалы з расейскай алімпійскай зборнай?**

**А.Д.:** На маю думку, гэты скандал вынік з-за неадпаведнасьці спартовага чынавенства сваёй прафэсіі. Яны ўсе працуюць яшчэ ў Савецкім Саюзе да гэтага часу. У расейцаў штамп: "Усе нас ня любяць". Але ім з гэтым жыць, і наўрад ці яны ад гэтага выйграюць.

**Ю.Б.:** Тое, што праявілася з расейцамі ў Солт-Лэйк-Сыты, я б назваў сындромам пераможаных пераможцаў. Дасягненьні расейскіх атлетаў у 90-я гады былі інэрцыяй савецкай школы. Яны прэтэндуюць на гегемонію ў зімовым спорце, але рэальна ў зімовых відах культывуюць 4—5 з 15 дысцыплінаў. Амэрыканцы заваявалі мэдалі ў 10 дысцыплінах. Расейцы хочуць працягу гегемоніі, але з шанцамі на ўзнагароды ў 4—5 дысцыплінах. Пераможаныя пераможцы мусяць зразумець, што нешта ў сьвеце зьмянілася і без сур'ёзных укладаньняў у спорт нельга застацца на вышыні. Яшчэ адзін нюанс. Доўгія дзесяцігодзьдзі савецкі спорт і атлеты былі пад прыкрыцьцём МАК і кольішняга прэзыдэнта Хуана Антоніё Самаранча. Ён быў вельмі прыхільна пастаўлены як да савецкага спорту, так і да чыноўнікаў. Рука руку мыла. Няма Самаранча, зьявіўся новы чалавек Жак Рагe, прыйшлі новыя людзі ў міжнародны алімпійскі рух, і глядзіце: у апошні дзень выкрытыя на допінгу дзьве расейскія атлеткі ды гішпанец, і той нямецкага паходжаньня. Быў бы Хуан Антоніё Самаранч, ці дапусьціў бы ён да такой крыўды спартоўца, дзякуючы якому ўпершыню ў гісторыі Алімпіяды Гішпанія заваявала тры залатыя мэдалі?

**А.Д.:** Але разам з тым Хуан Антоніё Самаранч "быў" тут на гульнях. Інакш бы гішпанца поўнасьцю дыскваліфікавалі, а так толькі пазбавілі аднаго мэдаля. Тое самае і з расейскімі лыжніцамі.

**Ю.Б.:** А міжнародная грамадскасьць можа пачувацца надуранай, бо знайшліся людзі, што паспрабавалі надурыць іншых, узяўшы на выкарыстаньне дарбапаэтын, якога няма ў сьпісе забароненых, але які ў 10 разоў мацнейшы за забаронены эрытрапаэтын. Ён зьявіўся толькі ў верасьні-кастрычніку мінулага году. Вот тут спрыту расейцам хапіла, і дарбапаэтын яны асвоілі.

### А хто ў нас першым прыйшоў

**"НН": Наколькі прафэсійна паказвала Алімпіяду БТ?**

**Ю.Б.:** Беларускае тэлебачаньне вельмі старалася, але старацца і даць якасны прадукт, кваліфікавана ацаніць, — гэта ня тое самае. У цэлым тая брыгадка з васьмі чалавек, якая была туды пасланая і штодня рыхтавала "Дзёньнікі", старалася. Праўда, не патрапіла падрыхтаваць "Дзёньнік" пасьля трыюмфальнай перамогі зборнай Беларусі над швэдамі — цяжка, відаць, было. І ў наступны дзень тлумачылі, што з тэхнічных прычынаў ня выйшаў "Дзёньнік", але тым ня менш паказвалі ж кароткія інтэрвію з хакеістамі і трэнэрам Уладзімерам Крыкуновым. Але, безумоўна, стараліся.

БТ ня можа забясьпечыць кваліфікаванага камэнтару многіх спартовых спаборніцтваў. Вельмі яскрава гэта выявілася ў часе трансьляцыі біятлёнавых гонак. Воляю лёсу гэтыя гонкі камэнтавалі галоўны рэдактар рэдакцыі спартовых праг-




**На Алімпіядзе зафіксавана тры станоўчыя рэакцыі на допінг-тэст: у Лазуцінай і Данілавай ды ў гішпанца Ёгана Мюліга. Нашай Юліі Паўловіч вынесенае папярэджаньне. "19-нарандрастэрон", выяўлены ў арганізме Юліі, нібыта ўтрымліваўся ў іназіне, біялягічна актыўнай дабаўцы да ежы.**

# 50-тысячны мітынг у Кішынэве



**Зладзіла мітынг Хрысьціянска-дэмакратычная народная партыя (ХДНП), наступніца Народнага фронту Малдовы. Нядзельная акцыя сталася кульмінацыяй народных хваляваньняў. Яна была 40-й па ліку ад 9 студзеня, калі студэнты і ліцэісты пад кіраўніцтвам ХДНП упершыню выйшлі на плошчу, пратэстуючы супраць намеру камуністычнага ўраду зьмяніць школьныя праграмы. Прарасейскі ўрад Вароніна задумаў увесьці абавязковае вывучэньне расейскай мовы й зьмяніць праграму па гісторыі — замест "Гісторыі румынаў" увесьці саветызаваную "Гісторыю Малдовы", якая ня згадвае пра савецкія дэпартацыі, голад, рэпрэсіі.**

Характэрная рыса малдаўскіх хваляваньняў — актыўны ўдзел студэнтаў і школьнікаў. Гэта і абумовіла масавасьць акцый. У 4-мільённай Малдове 100 тыс. студэнтаў, і амаль усе яны навучаюцца ў Кішынэве, адзіным буйным унівэрсытэцкім цэнтры краіны. Па долі студэнтаў у структуры насельніцтва Малдова, найбяднейшая краіна Эўропы, стаіць на першых месцах.

Прэзыдэнт Малдовы Ўладзімер Варонін назваў лідэра ХДНП Юр'я Рошку "тэрарыстам, які хоча на дзіцячай крыві ўчыніць дзяржаўны пераварот". Рошка адказаў, што "права ўдзельнічаць у руху мае кожнае дзіцё, якое стаіць на нагах і здольнае крыкнуць: "Далоў камуністаў". Міністэрства адукацыі паспрабавала ўплываць на шкаляроў пагрозамі падоўжыць навучальны год, але ціск не спыніў моладзі.

Нядзельная дэманстрацыя сабрала нечуваную для Малдовы колькасьць удзельнікаў, бо пра яе ўсе ведалі за тыдзень, і людзі ехалі з аддаленых вёсак. Паліцыя заблякавала пад'езды да гораду. Людзям даводзілася шыбаваць пехатой з ускраінаў гораду да плошчы Народнага сходу. Гэта толькі ўзмацняла ўсеагульны энтузіязм, нібы ў Менску на Дзень волі 1996 г.

Кардон паліцыянтаў атачыў будынкі ўраду, парляманту, адміністрацыі прэзыдэнта. Дэманстранты процістаялі ім са сьцягамі Малдовы і Эўразьвязу.

Пасьля мітынгу перад народам зьявіліся акторы з карыкатурнымі маскамі прэзыдэнта Вароніна і прэм'ера Тарлева. Гэта нагадала прысутным беларусам сьвяткаваньне 930-годзьдзя Менску ў 1997 г. перад Опэрным тэатрам.

Кішынэўская зіма 2002 г. шмат у чым нагадвае менскую вясну 1996-га. Тады таксама скіданьне прарасейскага рэжыму здавалася магчымым, а моладзь аддавала перавагу бруку перад тэхнадыскатэкамі. Аднак з ад'ездам Пазьняка і расколам апазыцыі ў пытаньні, сьвяткаваць ці не сьвяткаваць Першамай, сіла акцый паступова пайшла на спад. Наступныя гады толькі паглыбілі дэпрэсію.

У Кішынэве апазыцыі ўдалося арганізаваць больш маштабныя акцыі пратэсту. Гэта ўсё дзякуючы таму, што апазыцыя кантралюе органы мясцовага самакіраваньня ў некаторых гарадах, у краіне існуюць незалежныя тэлеканалы, ТВ Румыніі даступнае, а *FM*-станцыі пераважна малдаўскамоўныя. Тым ня менш цяпер, з падключэньнем маскоўскіх каналаў да "асьвятленьня" падзеяў, камуністы несумненна пастараюца ўзяць рэванш.

Для ўтрыманьня ўлады Варонін гатовы пры неабходнасьці ўжыць сілу. Дзеля гэтага ён зьмяніў на пасадзе міністра ўнутраных справаў Васіле Дрэгенэла на кіраўніка малдаўскіх сілаў спэцпрызначэньня Георге Папова.

Зрэшты, хваля нацыянальных пратэстаў дае камуністам новыя карты ў рукі. Варонін арыентуецца ня толькі на Маскву, але і на Парыж, і сваімі перадвыбарнымі заявамі пра ўваходжаньне ў саюз Беларусі і Расеі здаецца хутчэй абцяжараным, чым абавязаным. Затое ён без увагі на расейскія інтарэсы ўзяў курс на вяртаньне задністроўскага анкляву ў склад Малдовы.

Хадэкі маюць найменшае парлямэнцкае прадстаўніцтва (усяго 11 дэпутатаў са 101) і яшчэ нядаўна іхныя рэйтынгі не перавышалі 10%. Цяпер жа менавіта яны сталі галоўнай сілай апазыцыі. Баючыся ўплыву ХДНП, камуністы паспрабавалі забараніць гэтую партыю, але адступілі пад ціскам Рады Эўропы. Пастанову пра абавязковае вывучэньне расейскай мовы і "Гісторыі Малдовы" таксама давялося скасаваць. Кіруючая партыя адмовілася і ад намеру правесьці датэрміновыя выбары органаў мясцовага самакіраваньня, бо Канстытуцыйны суд вызнаў гэтыя захады неканстытуцыйнымі.

Камуністы саступілі ХДНП ва ўсіх патрабаваньнях, але пратэсты працягваюцца. У Малдове змагаюцца ня проста прыхільнікі розных палітычных сілаў, а прыхільнікі двух нацыянальных самаўсьведамленьняў. ХДНП цьвердзіць, што раней ці пазьней дзьве дзяржавы адзінага народу — Румынія і Малдова — аб'яднаюцца. Камуністы ж выступаюць за захаваньне незалежнасьці Малдовы пры цесным кантакце з Расеяй.

Рошка абяцае: "Будзем пратэставаць, пакуль ня скінем дыктатарскі рэжым". Патрабаваньні хадэкаў такія: адстаўка прэзыдэнта, прэм'ера, роспуск парляманту і правядзеньне датэрміновых парлямэнцкіх выбараў.

Пратэсты зрабілі ўражаньне і на камуністычны ўрад. Міністар адукацыі, які падпісаў загад пра ўвядзеньне расейскае мовы ў школах, падаў у адстаўку і, выступаючы на мітынгу ў нядзелю, прызнаў сваю памылку і пакаяўся. А 150 супрацоўнікаў студыі інфармацыі дзяржаўнага тэлебачаньня пагрозаю страйку прымусілі кіраўніцтва ТВ пусьціць у этэр альтэрнатыўныя погляды на кішынэўскія падзеі.

Пасьля посьпеху нядзельнага сходу лідэр ХДНП цяпер можа паводзіць сябе з пазыцыі сілы. Так, дэманструючы сваю ўвагу да паліцыянтаў, ён патлумачыў удзельнікам сходу, што ахоўнікам парадку таксама трэба адпачываць — вось чаму мардаваць людзей на холадзе. Таму акцыі адмыслова ня будуць ладзіцца ў суботу.

Падзеі ў Малдове, як і нядаўнае ўзмацненьне нацыянал-дэмакратаў ва Ўкраіне ды пахаладаньне ў беларуска-расейскіх адносінах, сьведчаць пра няўхільнае змяншэньне расейскага ўплыву ў зоне паміж Эўразьвязам і Расеяй. А ўзьлёт папулярнасьці нацыянал-дэмакратаў у Малдове і Ўкраіне абяцае сюрпрызы, прычым ня толькі выбарчыя, і ў Беларусі. Калі толькі беларуская апазыцыя не прагавэндзіць.

**Сяргей Радштэйн**

### Лукашэнку ў Кішынэве чакаюць пікеты

**Кіраўнік моладзевай арганізацыі Хрысьціянска-дэмакратычнай народнай партыі Малдовы Багдан Чабатару ў гутарцы з карэспандэнтам "НН" заявіў пра намер ХДНП пратэставаць супраць прыезду ў Малдову прэзыдэнта Беларусі. На дарозе Лукашэнкі маюць быць арганізаваныя шматлюдныя пікеты. «Прынамсі, пікеты», — мяркуе Чабатару.**

## навіны

### У Беларусь прыедзе Хатамі

**Пры канцы чэрвеня або на пачатку ліпеня ў Беларусь з афіцыйным візытам прыедзе іранскі прэзыдэнт Хатамі.** Ён мусіў прыехаць яшчэ мінулым летам, але з-за нашых выбараў адклаў візыт. Лукашэнка ў Тэгеране ўжо пабываў. Хатамі цяпер павінен наведаць Менск хаця б дзеля ветлівасьці.

**С.Р.**

### У Менску зьявіцца "Мэтро"

**Нямецкая фірма "Мэтро *AG*" заявіла ў Дзюсэльдорфе, што пляне пашырыць сваю сетку супэрмаркетаў сыстэмы *Cash&Carry*.** У абсяг інвэстыцыйных зацікаўленьняў фірмы трапілі Беларусь, Украіна, краіны былой Югаславіі.

**yusnews.info**

### Рабеце бізнэс у Канадзе

**Самая танная краіна для вядзеньня бізнэсу — Канада, а самыя дарагія ў гэтым сэнсе дзяржавы — Нямеччына і Японія. Да такіх высноваў прыйшла кансалтынгавая кампанія *KPMG*,** што дасьледавала ўмовы для бізнэсу ў прамыслова развытых краінах.

### Чэская кампэнсацыя ахвярам ГУЛАГу

**Чэскі ўрад зьбіраецца выплаціць кампэнсацыі грамадзянам, якіх камуністычныя ўлады Чэхаславаччыны засудзілі ў 1948—54 г. да прымусовых работ у шахтах і каменяломнях.** Да сёньняшняга дня дажылі каля сямі з паловай тысячаў ахвяраў рэпрэсіяў. Выплаты атрымаюць і тыя чэхаславацкія грамадзяне, якія трапілі ў савецкі ГУЛАГ. Па вайне савецкія ўлады дэпартавалі ў Саюз каля 7 тыс. грамадзянаў. Сярод іх была толькі якая тысяча этнічных чэхаў, а ў ліку астатніх шасьці тысячаў былі й нашы суродзічы, сярод якіх паэтка Ларыса Геніюш зь сям'ёй.

**Язапат Змысла**

## сур'ёзна!

**Міжнародны алімпійскі камітэт мяркуе, што мы ўжо прынялі новы гімн — і гімн гэты "Маладая Беларусь" Янкі Купалы.** Менавіта ён згаданы на беларускай старонцы сайту МАК www.olympics.com.

---

рам Уладзімер Шпітальнікаў і яго сябрук, зь якім яны то на "ты", то на "вы", Мікалай Петрапаўлаўскі, карэспандэнт "Советской Белоруссии". І мала таго, што яны выяўлялі сваю даволі неглыбокую веду таго віду спорту, які яны камэнтаруюць, але пры гэтым хапала нетактоўнасьцяў, некарэктнасьцяў. Бачыць Петрапаўлаўскі славенскага спартоўца і кажа: "А што нам яго паказваюць? Што ён, хіба можа прэтэндаваць на мэдалі?" А што, трэба паказваць толькі тых, хто будзе прэтэндаваць на мэдалі? І хапала ўсякай дурноты, хапала нейкіх сьмешных праколаў. То Шпітальнікаў і Петрапаўлаўскі пачалі каяцца перад гледачамі, што не заўсёды правільна ўдаецца прамовіць прозьвішча. І кажуць тады гледачом: тут выступаюць французы, немцы, прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, а ў нас у пратаколах прозьвішчы ўсе па-ангельску напісаны. Усё перакладзена на ангельскую мову. Уявіце, як нам няпроста! Не, толькі падумайце: прозьвішчы перакладзеныя на ангельскую мову. Ці пасьля адной з гонак яны не маглі згадаць: "А хто ў нас першым прыйшоў?" Дык а пра што ж вы гаварылі тут гэтыя паўтары гадзіны? Адным словам, гэта засмучала.

Мяне засмуціла таксама тое дыстанцыяваньне ад беларускай мовы, якое яўна прадэманстраваў, "мэтар", як яго рэгулярна называюць, Уладзімер Навіцкі. Добрыя ўцёкі пад прыкрыцьцём суразмоўцаў, якія кажуць тры словы на пяць хвілін, але гэта як бы алібі на тое, што мы забываемся на беларускую мову і камэнтаруем па-расейску. І ў часе жывых трансьляцый з Солт-Лэйк-Сыты пацьвердзілася тая вельмі прыкрая тэндэнцыя, што беларуская мова на беларускай тэлевізіі ў жывым арыгінальным маўленьні папросту нейкая звышнетыповая зьява. Беларуская мова функцыянуе толькі там, дзе штось запісана, папярэдне вычытана і пасьля будзе зь нейкімі вузлакамі ў роце зачытана. Так што жывога беларускага камэнтару, у тым ліку спартовага, на БТ мы ня чуем. І трансьляцыі з Солт-Лэйк-Сыты гэта пацьвердзілі.

**А.Д.:** Камэнтары БТ ня неслі нічога цікавага і знаходзіліся на ўзроўні 70-х гадоў, беларускага Савецкага Саюзу. І Катэ Махарадзэ, і Мікалай Озераў, і ў лепшыя часы Ўладзімер Пературын значна лепш рабілі. Як маглі, так і зрабілі. Што тычыцца Ўладзімера Навіцкага, "мэтра", то далей за мэтар ён ніяк.

**Ю.Б.:** Такія падручныя цялятнікі. Хаця "Дзёньнікі", што рыхтаваліся кожны дзень Ісатам і Герстэнам ды Аленай Панамаровай, былі больш-менш прафэсійныя.

**Запісаў Эдвард Людовіч**

## дзяржаўны інтарэс

# Прорва

Алімпіяда чарговы раз засьведчыла, што Беларусь ад Расеі аддзяляе прорва. І прорва гэтая — ня ў колькасьці мэдалёў.

Расея ў агульным алімпійскім заліку чацьвертая з 16 мэдалямі, побач з Аўстрыяй, а беларусы толькі ў другім дзясятку. Тым ня менш, мы з пакораю прынялі жорсткія меры МАКу да Паўловіч і Барычкі. А нізкая "прадукцыйнасьць" расейцаў справакавала скандалы і дэмаршы.

Вячэрнія *Вести* на РТР былі падобныя на паведамленьні з фронту. У студыю запрашалі далёкіх ад спорту палітыкаў і культурнікаў, якія кляймілі нячэсных судзьдзяў, МАК, ЗША і цэлы сьвет. Работнік эстрады Задорнаў проста ў студыі перакрэсьліў амэрыканскую візу. Дума ў пятніцу ўсё пасяджэньне прысьвяціла Алімпіядзе, загадаўшы расейскім алімпійцам разам зь беларусамі (!) пакінуць гульні. Дзякуй богу, што Пуцін "параіў" застацца. Толькі калі паўторны допінг-тэст пацьвердзіў, што расейскія лыжніцы ўжывалі дарбіпаэцін, аналяг эрытрапаэціну, прэпарат, які моцна падвышае колькасьць гемаглябіну ў крыві, расейская дэлегацыя зьвяла.

У Беларусі на гэтыя скандалы глядзелі з ірoніяй і відавочна з пазыцыі "цывілізаванага сьвету". Павал Якубовіч у калёнцы рэдактара *Советской Белоруссии* пакпіў з расейскай гістэрыі: "Сур'ёзныя людзі павінны ўсё-ткі адрозьніваць ад падлеткаў-фанатаў". Былы алімпійскі чэмпіён Уладзімер Парфяновіч быў яшчэ больш катэгарычны: "Каб расейцы не ўжывалі забароненых прэпаратаў, ня мелі б праблемаў". "Калі беларуская каманда сабралася і разьбіла шведаў, дык справа зусім не ў арбітрах", — завяршае Якубовіч свой камэнтар вечных нараканьняў расейскіх спартоўцаў і палітыкаў на антырасейскасьць судзьдзяў.

У такім жа духу асьвятляла скандалы і перамогі Алімпіяды і астатняя беларуская прэса. На гэтым фоне дысанансам глядзеліся хіба ацэнкі радыё "Свабода", якое настойліва даводзіла, што беларусы на Алімпіядзе цярпяць поўны правал.

Посьпех беларускіх хакеістаў (перамогі ў індывідуальным заліку робяць славу ў большай ступені самому спартоўцу, чым дзяржаве, якую ён прадстаўляе) прымусіў сьвет пабачыць Беларусь на мапе. І гэта каманда, выгадаваная на дзьвюх-трох лядовых пляцоўках савецкае пары! Можна толькі ўявіць патэнцыял будучых беларускіх зборных, калі дадуць свой плён цяперашнія хакейныя палацы. Беларусь усё ж — краіна Поўначы.

Толькі ня варта пяяць хвалу беларускім хакеістам, што адкрылі сьвету незалежную Беларусь. Варта пяяць хвалу Беларусі, што завявала і адстаяла незалежнасьць і тым самым адкрыла сьвету беларускіх хакеістаў.

**Барыс Тумар**

**Меркаваньні аўтараў-калюмністаў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі**

# з усёй краіны

## Найбольшая царква Беларусі

**У 2003 г. у Магілёве будзе пабудаваны праваслаўны Спаса-Праабражэнскі сабор, разьлічаны на 3500 чалавек.** Будаўніцтва храму вядзецца пад асабістым кантролем старшыні аблвыканкаму Барыса Батуры. Грошы на будаўнічыя работы ідуць з дзьвюх крыніцаў: асабістыя ахвяраваньні вернікаў і "добраахвотна-прымусовыя" укладаньні прадпрыемстваў. На сёньня памер дапамогі прадпрыемстваў складае 130 млн. рублёў.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

## Платнае лячэньне алькагалізму

**Зь лютага ў асіповіцкай паліклініцы пачаў працаваць кабінэт платнага лячэньня алькагалізму.** Па словах мэдпэрсаналу, кліентаў хапае, бо паслугі каштуюць нядорага: напрыклад, кадаваньне абыдзецца ўсяго ў 20 тыс. рублёў.

## Заробкі натурай

**У Быхаўскім раёне запазычанасьць па заробках выплачваюць не грашыма, а прадуктамі.** Так, рабочыя нафтабазы атрымалі заробак цукрам, камунальнікі — яйкамі.

**М.Р.**

## На дзявяты паверх – пешкі

**З 21 лютага жыхары сьветлагорскіх шматпавярховікаў вымушаныя падымацца ў свае кватэры на шостыя-дзявятыя паверхі пешкі.** У горадзе адлучаныя 288 ліфтаў. Мясцовая філія арганізацыі "Гомельліфт" спыніла абслугоўваньне сьветлагорскіх ліфтаў, бо гарвыканкам 11 месяцаў не аплачвае ейных паслуг і вінен ужо 180 млн. рублёў. А карыстацца ліфтамі, якія не праходзяць рэгулярнага тэхагляду, забараняюць правілы бясьпекі. Камунальныя службы гораду пералічваюць "Гомельліфту" тыя грошы, якія плацяць жыхары шматпавярховікаў за карыстаньне ліфтамі. Але гэтая сума складае толькі 18% ад затратаў. Астатняе мусіць датавацца зь бюджэту гораду, а там грошай няма.

**Вадзім Болбас, Сьветлагорск**

## 82-мілімэтровая бульба

**Жыхары вёскі Тарэцкаўшчына (Ашмяншчына) на калгасным полі знайшлі 82-мілімэтровую мінамётную міну часоў другой сусьветнай вайны.** Сёлета гэта першая такая знаходка. Абясшкодзілі міну сапёры.

## Замарозіла гарэлка

**Бяз пальцаў на абедзьвюх нагах застаўся 50-гадовы жыхар Астравеччыны.** Мясцовыя лекары іх ампутавалі, каб выратаваць жыцьцё пацыенту. Ногі ён адмарозіў ва ўласным доме. Зьвязаўшыся з саракградуснай, вясковец некалькі дзён не выходзіў з хаты й не паліў у печы. Калі скончылся гарэлка, адчуў нядобрае і зьвярнуўся да лекараў.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

## Шыла на Мыла

**Летась 185 жыхароў Берасьця афіцыйна зьмянілі свае прозьвішчы, імёны й імёны па бацьку на іншыя, яшчэ шасьці адмовілі ў гэтым. Ня хочуць людзі быць Худымі,** Скуднымі, Баранамі, Румзамі і г.д. Займець прозьвішчы вядомых у сьвеце людзей не пажадаў ніхто.

## Тры па тры

**Днямі да 60-ці сяброў пашырылася берасьцейскае грамадзкае аб'яднаньне "Блізьняты — адна сям'я".** У горадзе на сёньня сем'яў дзьвесьце зь блізьнятамі. Збольшага гэта двайняты. Тройні ў Берасьці маюць толькі тры сям'і.

**Л. Хведаровіч, Берасьце**

## У вёсцы даражэй

**Амаль 1000 смургонцаў падалі заявы ў аддзел сувязі, каб ім паставілі тэлефоны ў 2002 г.** Пакуль толькі 70 зь іх назьбіралі на гэта грошай. Гэта што тычыцца гарадзкіх абанэнтаў. У вёсцы — даражэй: стварэньне аднаго нумару каштуе 660 тысячаў, адзін кілямэтар кабелю — 200. Летась у вёсцы ўстанавілі толькі 95 новых тэлефонаў, дый тое па старых цэнах.

## Сваркі і звадкі

**Найчасьцей смургонцы зьвяртаюцца ў міліцыю з-за сямейных скандалаў і боек.** Два-тры разы на тыдзень участковых выклікаюць на хатнія "разборкі". Летась 318 разоў у "02" зьвярталіся жанчыны. Траціна скардзілася на экс-мужоў. Аб тым, што нарачоныя б'юцца, "слабая палова" апавяшчала міліцыянтаў 79 разоў. Незадаволенасьць сужыцелямі выказвалася ў 39 заявах. 35 разоў маткі скардзіліся на сыноў, 7 — на дачок, 10 — на адных і другіх. І толькі 5 разоў дрэнна сябе паводзілі бацькі.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

## Хабар за месца на могілках

**На Маскоўскіх могілках Менску хаваюць па спэцыяльным дазволе, аднак магчымае і "камэрцыйнае" пахаваньне.** Адзіночны ўчастак афіцыйна каштуе 318 тыс. рублёў, патройны — 450 тыс. Але попыт на месцы быў настолькі вялікі, што зьявілася падпольная каса. Загадчыка могілак арыштавалі ў момант атрыманьня ад аднаго грамадзяніна 300 даляраў. Праз колькі дзён калега арыштаванага добраахвотна зьявіўся ў міліцыю і распавёў пра 65 фактаў атрыманьня грошай. "Мэханізм" быў просты: сваякоў нябожчыка прыводзілі ў далёкі кут могілак, дзе стаяла вада. І яны плацілі, каб атрымаць лепшае месца. Пахаваньне паблізу цэнтральнай алеі каштавала ад 150 да 300 даляраў. Позьняе раскаяньне далакопу не дапамагло: яго таксама пасадзілі ў сьледчы ізалятар.

## Засудзілі РНЕшнікаў

**Менскі гарадзкі суд разгледзіў справу сябраў РНЕ Канстанціна Дашкевіча й Ігара Солера.** Летась 2 студзеня яны падчас сьвяточнага застольля ўчалі бойку з аднапартыйцам Максімам Брэйнерам, жорстка зьбілі яго, колькі разоў ударылі нажом, а потым тройчы стрэлілі з рэвальвера. Солер атрымаў 15 гадоў турмы, Дашкевіч — 17, бо рэвальвер быў ягоны. На думку маці забітага, прычынаю сьмерці стала жаданьне Максіма пакінуць шэрагі арганізацыі.

**Б.Т.**



IREX-PROMEDIA, ВІТАЛЬ ГІЛЬ

19 лютага ў 13 гадзін 30 хвілін на чыгуначным пераезьдзе ў межах Слоніма адбылося сутыкненьне дызэль-цягніка Баранавічы—Ваўкавыск з грузавым аўтамабілем, гружаным угнаеньнямі, які спрабаваў перасячы пераезд на чырвоны сыгнал сьвятлафора. 36-гадовы вадзіцель грузавіка сканаў на месцы аварыі, пасажыры цягніка не пацярпелі.

*калёнка Алеся Бяляцкага*

# Менск-Масква-Бялград

Бялград — адзіная на сёньня эўрапейская сталіца за межамі былога Саюзу, куды беларус можа патрапіць, маючы толькі пашпарт. Лукашэнка дамовіўся зь Мілошавічам пра бязьвізавы рэжым, а парлямэнты падпісалі вар'яцкі дакумэнт пра патрыйны саюз — Югаславіі, Расеі й Беларусі. Цяпер Мілошавіч у Гаазе, Лукашэнка пасварыўся з Пуціным, а нам на памяць пра іхныя геапалітычныя мроі застаўся бязьвізавы рэжым.

У Бялград зь Менску найзручней ляцець праз Маскву. У касе "Белавія" мне назвалі па тэлефоне нейкі замалы кошт квітка. Высьветлілася — перабрытталі Бялград зь Белградам. Добра, што ў нашых аўтобусных касах ня блытаюць Браслаў з Брацілсавай.

У пачакальні аэрапорту гурт мужчынаў дагледзе па РТР трэці тайм хакею Беларусь-Швэцыя. Апошняя шайба проста фантастычная. Камэнтатар называе нашую перамогу найвялікшай сэнсацыяй гэтай Алімпіяды. З Масквы ляцім на старым "боінгу" Югаслаўскіх авіяліній. Майму спадарожніку на белавіяўскай "тушцы" прадзьмула бок, а тут — утульней, як у старым "мэрсэдэсе" году 90-га выпуску. Прынамсі, ня дзьме. У бялградзкім аэрапорце заўважаем зачахлёныя вайсковыя самалёты й шрубалёты — магчыма, тое, што ўдалося схаваць сэрбам падчас вайны.

Таксіст па-ангельску пытаецца, адкуль мы. "Беларусь", — адказваем. "Нам цяжка разабрацца — Расея, Беларусь", — кажа ён. "Хакей, — нагадваем мы, — Швэцыя-Беларусь". — "О, так, — ківае ён галавой, потым нечакана працягвае, — два дыктатары: Мілошавіч і Лукашэнка". Ківаем у адказ. Цяжка знайсьці ў Менску таксіста, які б размаўляў па-ангельску.

У Бялградзе праходзіць канфэрэнцыя няўрадавых арганізацыяў, якія займаюцца ў сваіх краінах грамадзкім назіраньнем за выбарамі. Арганізатары распытваюць у нас, ці не было праблемаў з адлётам зь Беларусі. Бо перад пачаткам канфэрэнцыі тэлефанавалі зь беларускай амбасады ў Бялградзе і распытваліся, хто будзе прадстаўляць Беларусь. Сэрбы дыпляматычна ўхіліліся ад адказу.

У Бялградзе — вясна. Блакітнае неба, распускаюцца пупышкі на дрэвах і кустах, зеляніе трава, моладзь ходзіць у байках і швэдрах, катаецца на роліках і скейтах, расхрыстаныя цыганяты бегаюць сьледам за трамваямі. Вузкія вуліцы спрэс залітыя асфальтам, з комінаў шэрых дамоў цягнуцца жоўтыя хвасты дыму. Бачым вясельле, што танчыць пад народную музыку, у якой больш турэцкіх, чым славянскіх матываў.

Плошча перад Скупшчынай зусім невялікая. Калі яе паказвалі па тэлевізары падчас рэвалюцыі, здавалася большай. Ніякай аховы, толькі на прыступках ляжыць чорны балахон, раскіданыя жаночыя туфлі, пустыя цобікі з-пад фарбы, шклянкі і розная дробязь — астаткі нейкага пэрформансу. Палітыка сышла з плошчаў Бялграду.

У Маскву наш самалёт прыляцеў раней. Сымбалічна: у Сэрбіі ўжо вясна, а ў нас яшчэ паўсюль ляжыць сьнег. Машына, якая мусіла прыехаць па нас, спазьнялася. Амаль усе пасажыры разьехаліся. У фае аэрапорту выключылі сьвятло. Стала цёмна й вусьціна. Засталіся толькі мы і кубінцы, якіх таксама чамусьці ніхто не сьпяшаўся забіраць.

**Алесь Бяляцкі**

## Сто прапановаў гімну

**Больш за сто варыянтаў тэксту й музыкі новага гімну Беларусі паступіла ў камісію.** У іх ліку — "Магутны Божа", "Радзіма мая дарагая", "Разьвітаньне з Радзімай", новыя тэксты на музыку Сакалоўскага. Толькі многія аўтары, парушаючы ўмовы конкурсу, адкрыта падаюць зьвесткі пра сябе. Варыянты гімну будуць прымацца да 10 сакавіка.

А ў Полацку ладзіцца конкурс на гімн гораду. Варыянтаў паступіла больш за 20. Вынікі конкурсу абвесьцяць 25 красавіка.

## Кнігі Ўладзіслава Чарняўскага

**23 лютага ў менскім Чырвоным касьцёле адбылося асьвячэньне касьцельнай бібліятэкі імя Адама Міцкевіча.** Урачыстасьць прымеркавалі да перадачы ў бібліятэку кніг а.Уладзіслава Чарняўскага, якія ён рупна зьбіраў 50 гадоў, жывучы ў Вішневе.

**Б.Т.**

*сур'ёзна!*

## Шырма ўваскрос у Мсьціславе

**"25—26 траўня ў Мсьціславе адбудзецца фэстываль камэрнай музыкі, прысьвечаны памяці выдомага беларускага кампазытара Мікалая Чуркіна.** ...На адкрытых пляцоўках выступяць аркестры пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга й Леаніда Іванова, хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы".

**"Сьвятло Кастрычніка", Мсьціслаў**

## Гарэлка філяматаў

**Падчас рамонту дому ў Шчучыне (Гарадзеншчына) рабочыя знайшлі парцалянавую пляшку, залітую сургучом.** Па пячатцы распазналі, што ў ёй — мандарынавая гарэлка, зробленая ў 1821 г. на бровары ў Лодзі. Рабочыя гарэлку спажылі і высока ацанілі.

**Паводле радыё "Рацыя"**

## Памерла Паліна Машэрава

26 лютага на Маскоўскіх могілках пахавалі Паліну Машэраву - былую партызанку, удаву Пятра Машэрава. Яна памерла 23 лютага на 86-м годзе жыцьця. Паліна Машэрава зь верасьня 1941 г. ваявала ў партызанскім атрадзе імя Шчорса, якім камандаваў Пятро Машэраў. Была ўзнагароджаная ордэнамі і мэдалямі за ўдзел у баях. Пасьля вайны працавала ў 2-й менскай стаматалягічнай паліклініцы.

# даслоўна. са спасылкамі на "Нашу Ніву"

## Google: цяпер і па-беларуску

Компьютерные вести

Адкрываю я днямі IE 5.5, уводжу звыклае www.google.com і праз дзясятак сэкундаў ня веру сваім вачам: амаль уся галоўная старонка перапісаная па-беларуску, ды яшчэ й "тарашкевіцай"! Першай думкай маёй было: ізноў з *Google* пажартавалі сеткавыя жартаўнікі, як гэта было надоечы, калі на галоўнай старонцы нейкі час красаваліся ня дужа цэнзурныя расейскія выразы. Толькі гэтым разам жартаўнікі былі беларускія і, так бы мовіць, "з накірункам". Падазрэньне падмацоўвалася тым, што далёка ня ўсё на *Google* было па-беларуску. Да таго ж па ўмаўчаньні *Google* заўсёды загружае ангельскамоўную старонку, для пераключэньня інтэрфэйсу неабходна было скарыстацца лінгвістычнымі інструмэнтамі. Зазіраю туды... і супакойваюся. Беларуская мова ўключаная ў сьпіс моваў, якія падтрымлівае праграма. Гэта было прыемна. Сытуацыю патлумачыў 6-ы нумар газэты "Наша Ніва" ад 8 лютага. Выявілася, што на прапанову *Google* дапамагчы ў перакладзе інтэрфэйсу на сваю нацыянальную мову адгукнуліся "два нашыя хлопцы" — Сяргей Бычкоў і Ягор Шумскі. Дзякуючы ім беларуская мова стала 72-й мовай сьвету, якую падтрымлівае *Google*.

Вось калі б хто-небудзь яшчэ адгукнуўся на аналягічную прапанову папулярнага браўзэра *Opera*! Тады б і ў Сеціве можна было пачувацца як дома.

**Сяргей Санько**

***Компьютерные вести*, №7, 21 лютага**

## Наконт гімну

Народная Воля

На тэму гімну РБ нядаўна выступіла газэта "Наша Ніва" (за 1 лютага г.г.). І паведаміла чытачам (цытую): "Як намякаюць некаторыя апытаныя намі ў сёньняшнім нумары, прыняць гімн зашкодзілі амбіцыі Ніла Гілевіча, які прапаноўваў свой варыянт гімну". На гэта магу сказаць толькі адно: хлусьня і паклёп. Бог сьведка! Я ня толькі не прапаноўваў нейкі свой верш ні ў журы, ні каму з кампазытараў, але мне і ў галаве не прыходзіла такая "амбіцыя". Я вельмі хацеў, каб гімнам стала любімая ў народзе песьня зь вялікай і драматычнай біяграфіяй — гэта мой прынцыповы падыход да выбару і прыняцьця нацыянальнага гімну. Такой бачыў праз увесь час толькі песьню "Магутны Божа".

**З артыкулу Ніла Гілевіча "Наконт Гімну: чаму яго няма. І які ён неўзабаве будзе" ("Народная воля", 19 лютага)**

## Алесь Чобат на "Рацыі"

RR Радые Рацыя

**А.Ч.:** У адным з апошніх нумароў "Нашай Нівы" нейкая жанчына напісала на мой адрас ліст, дзе выказала жаданьне мець маральную цэнзуру й не пускаць гэткіх тэкстаў, як мае, у друк, бо яны "разбуральныя". Але я займаюся аналізам. У прыродазнаўстве і ў чалавеказнаўстве ёсьць аналіз і сынтэз — два спосабы. Аналіз і ёсьць разбурэньнем, бо "аналіз" — гэта "расклад" па-нашаму. Кожны лекар займаецца раскладам, разбурэньнем, бо, перад тым як чалавека лячыць, трэба яго дасьледаваць. Перад тым як народ лячыць, трэба яго дасьледаваць. Я займаюся толькі аналізам. Я не займаюся сынтэзам: на тое пакуль зарана, бо мы яшчэ аналізу не зрабілі. А тое, што гэта некаму непрыемна, гэта такі самы бальшавізм: мае стаць так і так, заміж аднаго міту мае стаць другі міт ды да т.п. Дарэчы, з тых самых аўтараў "Нашае Нівы" я хацеў бы адзначыць Севярынца (хоць ён яшчэ чалавек саплівы ды наіўны), бо ён зразумеў, што ягонае пакаленьне — гэта ягонае пакаленьне, і што пакаленьне маё й Хадыкава яму не дапаможа, і што ён мае сам сабе парадзіць. А таксама Алеся Бяляцкага, які паставіў дзьве праблемы. Першае: мы не павінны захлынуцца ў расейскай поп-культуры, менавіта поп-культуры, бо Чэхаў або той самы пралетарскі Горкі нам не зашкодзяць. Нам зашкодзіць менавіта поп-культура, узятая расіянамі з поп-культуры амэрыканскае, бо гэта нейкі бэтон, асфальт страшны, які нішчыць усё. І другая праблема: як нам зрабіць беларускім места?

**Радыё "Рацыя", 25 лютага**

## soc.culture.esperanto

S-ino Uścińnia Žurnajak el Pinsko ighis chijare 116-jaragha — la plej agha en Belarusio kaj en tuta mondo. (Nuna registrita en libro de rekordoj homo el Japanio estas 112-jaragha)

...

Antau unu jaro Belarusio ankau estis championo pri longvivuloj: tiam la plej agha homo de la planedo estis Maryja Šaraja el vilagho Nižnija Žary, kiu ghisvivis 124 jarojn kaj mortis en marto de 2001.

Ghenerale, da longvivuloj ni havas sufiche multe. Kalkulado de 1999 jaro notis 877 virinojn kaj 104 virojn, pli aghajn ol 100 jaroj. Granda parto el ili – 230 homoj – loghas en Harodna regiono (au "Grodna", al kiu iam apartenis naskourbo de Zamenhof). Pli ol du trionoj de la longvivuloj estas vilaghanoj, kaj preskau chiuj – virinoj.

Lau informoj de gazeto "Naša Niva", №8, 22 februaro.

**Урывак зь перакладу артыкулу "Бабін век" на эспэрантысцкім Інтэрнэт-форуме news://soc.culture.esperanto**







# Курбан-Байрам у Іўі



Амаль 500 гадоў назад у мястэчку Іўе на Гарадзеншчыне аселі татары, зьмяніўшы спрадвечнае вандроўнае жыцьцё на занятак земляроба. Дарэчы, з мноства мусульманскіх асяродкаў, што існавалі ў Беларусі, да нашых дзён ацалела, па сутнасьці, толькі гэтая івейская татарская калёнія. У цяжкія часы барацьбы з рэлігіяй Іўе заставалася Меккай для тых, хто не адрокся ад сваёй веры, але ня мог схадзіць у мячэць у сваім горадзе ці вёсцы.

Адно з найвялікшых сьвятаў, якое івейскія татары вельмі шануюць, — Курбан-Байрам. Ахвярапрынашэньне для мусульман мае вялікае значэньне, і гэтага абраду яны ніколі не ігнаравалі. Вось і сёлета ў ахвяру было прынесена некалькі свойскіх жывёл. На двары каля мячэці чакалі свайго канца некалькі бараноў, тры двухгадовыя быкі і пара пеўняў. Пасьля асьвячэньня жывёл зьвязалі і дружна павалілі на правы бок, а там і прырэзалі. У Іўі ёсьць завядзёнка разносіць па татарскіх хатах кавалачкі бараніны і ялавічыны (цяляціны). Дарэчы, згодна з апошнім перапісам, у мястэчку жывуць 550 мусульман. У Курбан-Байрам яны абавязкова наведваюць івейскія татарскія могілкі — адны зь нямногіх, якія ў Беларусі захавалі прыстойны выгляд.

Татары, асеўшы ў Іўі, памянялі род дзейнасьці і часткова жыцьцёвы ўклад, але захавалі веру і традыцыі сваіх продкаў.

**Анатоль Кляшчук.**
**Фота аўтара**











## *Зь дзёньніка канадзкай імігранткі*



# Кавярня “Архэ”, альбо Хлеб напалам з ружамі

**Тая выпадковая размова з Адамам Глёбусам потым прыгадаецца мне неаднойчы. “Што ты будзеш рабіць у Канадзе?” — пацікавіўся ён тыдні за два да нашага ад’езду. Неяк само сабой у мяне сарвалася зь языка: “Буду мыць посуд у якой-небудзь кавярні і пісаць артыкулы ў “Нашу Ніву”. Што маё “прароцтва” збудзецца, прадказаць было няцяжка. Цяжэй было прадбачыць, што і ў працы пасудамыйкі нечакана адшукаецца цікавасьць.**

**Ня тое каб я ўжо вельмі старалася датрымацца дадзенага Глёбусу абяцаньня. Наадварот, напачатку сумленна шукала працу “па спэцыяльнасьці”.**

**Працяг са старонкі 1.**

...Тут бачу на найбліжэйшым супэрмаркеце аб’яву: патрабуюцца памочнікі на выходныя. Тое, што трэба! Бяру ў краме “аплікант форм” — анкету для паступаючых — і лячу дадому яе запаўняць. Адукацыя? Вышэйшая, вядома. Якімі мовамі валодаеце? Пералічваю пяць ці шэсьць. Апошняе месца працы? Часопіс і газэта. Рэкамэндацыі? Ад галоўнага рэдактара. Кім хочаце працаваць у супэрмаркеце? Ды ўсё адно кім: хоць падлогу мыць, хоць чэкі на касе выбіваць...

Аб’ява пра пошук работнікаў вісела на вітрыне яшчэ добрых паўтара месяца, але дарма я чакала, што нехта мне затэлефануе. Кожны раз, калі я ішла ў гэтую краму па прадукты, вялікія літары “Патрабуюцца памочнікі!” цьвялілі і раздражнялі мяне: ну няўжо яны думаюць, што маёй кваліфікацыі не хапіла б, каб раскладаць па палічках кансэрвы?

Расказала я пра гэты абуральны, як мне здавалася, выпадак на паседжаньні Згуртаваньня беларусаў Канады. Як пачалі ўсе зь мяне сьмяяцца! Здурнела, кажуць, — якая журналістыка?! Якая вышэйшая адукацыя?! Ідзеш у гандляркі — пішы, што ўсё жыцьцё стаяла за прылаўкам, наймаешся ў прыбіральшчыцы — значыць, заўсёды мела справу толькі зь вядром ды анучай. Бо ёсьць у канадзкіх наймальнікаў такая прыхамаць: цябе ніколі ня возьмуць на працу, калі палічаць, што ты для яе “оўвэрэд’юкэйтыд”, то бок занадта вучоны.

Паспачуваўшы мне (і, відаць, клапоцячыся пра нашую плацежаздольнасьць), гаспадыня дому, у якім мы здымаем кватэру, абзванíла сваіх знаёмых — ці ня ведаюць яны часам, дзе патрэбныя работнікі. Азваўся шэф-кухар адной кавярні: акурат там шукалі пасудамыйку.

...Гэтым разам я ўжо была разумная і на пытаньне мэнэджэркі, ці мела я на радзіме досьвед аналягічнай працы, упэўнена адказала: “О, так!”. — “Дык раскажы, дзе ты працавала”, — пацікавілася яна. Каб маніць нязмушана і пераканаўча, трэба нешта маляўніча сабе ўяўляць. Я ўявіла Валерку Булгакава ў белым кухарскім каўпаку, Андрэя Дынька за барнай стойкай, з бутэлькай дарагога каньяку ў руках — і сказала: “Я працавала ў кавярні “ARCHE”... Гэта была зусім невялічкая кавярня, і месьцілася яна ў новым трохпавярховым будынку выдавецкага дому “Наша Ніва”. Наведнікамі кавярні былі галоўным чынам журналісты ўсіх пяці рэдакцыяў, а таксама шматлікія няштатныя аўтары. Тутака ж, у кавярні, дзе я рабіла ім бутэрброды і варыла каву, яны маглі пагартаць сьвежыя нумары нашых часопісаў і газэтаў, набыць навінкі кніжнай прадукцыі выдавецтва. Вечарамі да нас часьцяком завітвалі паэты і мастакі, барды сьпявалі пад гітару свае новыя песьні, а кампазытары найгравалі на кабінэтным раялі, што стаяў у кутку кавярні, апошнія геніяльныя творы...

Ня ведаю, што было галоўнай прычынай посьпеху — ці мой мастацкі аповед, ці ўсё ж пратэкцыя шэф-кухара, але запаветны доступ да пасудамыйнай машыны я атрымала. І пакрыху канадзкае жыцьцё пачало адкрывацца мне зусім зь іншага боку.

Кавярня, куды мяне закінуў выпадак, знаходзіцца на Блуры — адной з галоўных вуліцаў Таронта — і завецца “Брэд энд Роўзыс” (“Хлеб і ружы”). Гэтае дзіўнаватае, на першы погляд, спалучэньне сталася геніяльнай знаходкай жонкі першага ўладальніка: дзяцей сюды цягне як магнітам. Напэўна, яны ўяўляюць сабе вялізны-вялізны торт, абсаджаны кветкамі з крэму. Такія тарты тут робяць і насамрэч, але ўпрыгожваюць іх зазвычай сьвежымі ягадамі, і гэты ліпеньскі нацюрморт пасярод зімы глядзіцца ня менш казачна.

Хтосьці забягае сюды перакусіць на хвілінку, іншыя сядзяць за столікамі падоўгу — чытаюць газэты і кнігі, пішуць лісты, адзначаюць сямейныя ўрачыстасьці. За адным столікам фатограф здымае мадэльку для рэклямы, за другім выкладчык правярае студэнцкія работы, на трэцім маці выцягвае з пуховага камбінэзону немаўлятка, п’е сваю каву без кафэіну, а потым тут жа, пры століку, дае маламу цыцку, і ніхто гэтаму ня дзівіцца, бо кожны чалавек на тое і прыходзіць у кавярню, каб пад’есьці.

> *Цябе ніколі ня возьмуць на працу, калі ты “оўвэрэд’юкэйтыд”, г.зн. занадта вучоны.*

Гаспадары кавярні — палякі, 90% абслугі — таксама, і таму, апроч ангельскай мовы, я міжволі практыкуюся ў польскай, чым вельмі задаволеная. Сямейны бізнэс па-канадзку — гэта калі гаспадар кавярні ня толькі наймае на працу, але й сам пячэ тарты, ягоная сястра абслугоўвае наведнікаў нароўні зь іншымі афіцыянткамі, ягоны старэнькі бацька (першы ўладальнік) прыглядае за парадкам, пры патрэбе ўмее папраўіць сантэхніку і часта сам мые на кухні катлы ад супу, а маці, таксама не маладзенькая, прыходзіць увечары зьняць касу, але пры гэтым часьцяком хапаецца за мятлу, каб дапамагчы нам прыбраць. Разьлік просты: чым больш працы зробяць самі гаспадары, тым хутчэй пойдуць дадому работнікі і тым менш давядзецца ім плаціць.

Амаль усе дзяўчаты і жанчыны, што працуюць са мной у “Брэд энд Роўзыс”, недзе вучацца — у дзённай ці вячэрняй школе, у каледжы, ва ўнівэрсытэце. У маладой канадкі-адзінаццацікляснiцы я запыталася, куды яна зьбіраецца паступаць пасьля школы. “Мая прафэсія будзе зьвязаная з ангельскай мовай”, — адказала яна. “Настаўніца?” — паспрабавала здагадацца я. — “Не зусім. Як бы гэта Вам растлумачыць... — яна паглядзела на мяне зь відочным сумневам. — Вы ведаеце, што такое журналістыка?” — “*Just a little bit*”, — адказала я цалкам шчыра.

Калясальная цяга да вучобы грунтуецца ў Канадзе на наймацнейшым стымуле: ты выразна бачыш у канцы доўгай дарогі вучнёўства прафэсію, якая дазволіць табе атрымліваць нашмат больш, чым 8 даляраў у гадзіну (у год гэта выходзіць трохі больш за шаснаццаць з паловай тысяч). Доктар, што працуе ў дзяржаўным шпіталі, зарабляе ад 80 да 160 тысяч даляраў у год, інжынэр — ад 60 тысяч і вышэй, юрыст — ад 75 тысяч і да бясконцасьці... Але, шаноўныя дактары й інжынэры на Радзіме, не рабіце памылкі, не прымярайце гэтых лічбаў да сябе! Калі вы прыяжджаеце ў Канаду, вам даводзіцца на працяглы час забыцца пра сваю вышэйшую адукацыю, навуковую ступень, ляўрэацкае званьне і г.д. Хутчэй за ўсё, спачатку давядзецца працаваць кіроўцам-дальнабойшчыкам, развозчыкам піцы, чорнарабочым на будоўлі, а жанчыны, найбольш верагодна, у першыя месяцы будуць прыбіраць дамы або даглядаць чужых дзяцей. Бо пры ўсіх вашых плюсах і перавагах вы ня будзеце мець найважнейшай, з пункту гледжаньня канадзкіх наймальнікаў, вартасьці — канадзкага досьведу працы. Да таго ж, большасьці спатрэбіцца не адзін год, каб навучыцца гаварыць “канадзкай ангельскай” вольна. І таму лепей загадзя сказаць сабе, што вы гатовыя пачаць з нуля, забыцца на амбіцыі, сьціснуць зубы і падрыхтавацца да шматгадовай аблогі канадзкіх прафэсійных цьвярдыняў.

Магу, да прыкладу, распавесьці, які шлях мусіць прайсьці наш інжынэр, каб атрымаць права і ў Канадзе звацца гэтым ганаровым імем. Па-першае: паперка пра “пацьверджаньне” дыплёму, якую вы атрымалі ў часе эміграцыі, ніякае ролі не адыгрывае і наагул вам не спатрэбіцца. Спачатку вы мусіце заплаціць грошы, каб пэўная арганізацыя “ацаніла” ваш дыплём на прадмет адпаведнасьці праслуханых вамі курсаў канадзкім стандартам. Ня майце ілюзіяў: праграмы шмат у чым не супадаюць. Значыць, прыйдзецца плаціць грошы за кожны курс, якога вам не стае. Колькі? Як патлумачылі майму мужу, інжынэру-мэталюргу, курс “Тэорыя зварачных працэсаў” у канадзкім Інстытуце тэхнічнага гандлю каштуе 9 тысяч даляраў за 400 гадзін. Не забудзьцеся, што ўвесь той час, які вы будзеце вучыцца, вам яшчэ трэба будзе аднекуль здабываць грошы на ежу і аплату кватэры: працаваць паралельна з вучобай вы, хутчэй за ўсё, ня здолееце. У канцы курсу — іспыты. Калі ня здаў — плаці грошы за вучобу яшчэ раз і слухай той самы курс у тым самым аб’ёме.

Але, дапусьцім, здабыў грошы, вывучыўся, пасьпяхова здаў іспыты. І адразу стаў інжынэрам? Дзе там! Далей яшчэ цікавей: мусіш гады два выконваць абавязкі інжынэра, але не на інжынэрскай пасадзе! Напрыклад, лічыцца тэхнікам, фактычна быць інжынэрам, але атрымліваць удвая-ўтрая ніжэйшы заробак. А пасьля такой “стажыроўкі” яшчэ мусіш знайсьці двух-трох інжынэраў, згодных даць табе рэкамэндацыі, безь якіх ня прымуць у Асацыяцыю прафэсійных інжынэраў Канады. Але й гэта яшчэ ня ўсё: далей трэба праслухаць (ізноў-такі не бясплатна) яшчэ некалькі спэцкурсаў, якія чытаюць толькі ў самой Асацыяцыі, напрыклад “Інжынэрную этыку”. І толькі пасьля гэтага Асацыяцыя выдае ў дрыготкія рукі шчасьліўчыка запаветную паперку — ліцэнзію інжынэра. Ні ў якай іншай краіне сьвету такой складанай працэдуры няма. Няцяжка здагадацца, навошта яна: наставіць як мага болей рагатак на дарозе “чужых”, каб не забіралі кавалак хлеба ў “сваіх”...

Цяпер уявіце, што вы — новы імігрант. Вам пад сорак, грошай на “давучваньне” да сваёй жа прафэсіі няма. Калі вы іх заробіце? Колькі гадоў яшчэ будзеце вучыцца? І колькі вам тады будзе?..

Вось чаму многія вырашаюць махнуць рукой на працяг кар’еры і пайсьці іншым шляхам — пагадзіцца зь пераменай прафэсіі, паступова “расьці” на новым месцы — ад пасудамыйкі да афіцыянткі, ад афіцыянткі да мэнэджэркі, ад мэнэджэркі да ўладальніцы аналягічнай кавярні. Жанчыны, што пачынаюць як прыбіральшчыцы дамоў, зь цягам часу, бывае, засноўваюць уласныя фірмы, прапануюць паслугі па прыбіраньні, наймаюць тры-пяць сьвежасьпечаных імігрантак — і працэс адаптацыі пачынаецца нанова... Праца чорнарабочым на будоўлі за 8—9 даляраў у гадзіну таксама можа скончыцца заснаваньнем невялічкай уласнай фірмы, якая будзе займацца будаўніцтвам ці добраўпарадкаваньнем дамоў. Але кожны з тых этапаў вымагае часу, цярплівасьці і цягавітасьці.

Я так падрабязна спыняюся на гэтых канадзкіх рэаліях, бо працягваю атрымліваць зь Беларусі электронныя лісты, зь якіх добра відаць, што людзі, якія ўжо наважыліся эміграваць у Канаду, абсалютна не ўяўляюць, што іх тут чакае. Аўтар аднаго зь лістоў, напрыклад, просіць высьветліць адрасы навукова-дасьледчых інстытутаў, каб па прыезьдзе шукаць там працы “хоць лябарантам”. Шукаць, вядома, не забаронена... Але ў мяне перад вачамі адразу паўстае нядаўна бачаная абвестка: “Патрабуецца пасудамыйка. Ня менш за год канадзкага досьведу працы”...

Другі мой карэспандэнт мае сумневы: ці не падманвае яго фірма, якая абяцае адразу па прыезьдзе ў Канаду ўладкаваць яго праграмістам. Хутчэй за ўсё, менавіта падманвае! Рынак праграмістаў у Канадзе акурат цяпер перанасычаны: увосень 2001 г. адбыліся масавыя звальненьні гэтай катэгорыі спэцыялістаў, і цяпер прафэсіяналам, якія толькі што прыехалі, можна разьлічваць хіба на неверагодную ўдачу альбо на вельмі блізкае знаёмства/сваяцтва з кіраўнікамі адпаведных фірмаў. Два знаёмыя праграмісты, якія прыехалі ў Канаду амаль адначасова з намі (каля дзевяці месяцаў таму), — абодва мелі добрую ангельскую мову і выдатныя рэкамэндацыі! — вымушаныя былі пачаць працаваць у якасьці маляра і целаахоўніка. Адзін зь іх знайшоў работу па спэцыяльнасьці толькі праз паўгоду, другі шукае дагэтуль... Таму, калі будзеце складаць валізы ў Канаду, ружовыя акуляры пакідайце дома. Канадзкі хлеб насамрэч напалам з ружамі: могуць трапіцца і кветкі, але спачатку наясіся шыпоў.

Першыя зробленыя тут даляры амаль ва ўсіх новых імігрантаў чамусьці выклікаюць моцнае пачуцьцё самапавагі. Той, хто служыў у войску, можа прыгадаць свае адчуваньні пасьля “вучэбкі” — напэўна, гэта штосьці падобнае. Першая атрыманая пасада прымушае больш уважліва прыглядацца да людзей навокал: тут любы кіроўца таксі можа выявіцца былым кандыдатам навук. Зрэшты, ведаю я і ў Беларусі нямала кандыдатаў навук, якія, каб зарабіць на хлеб, мусілі перакваліфікавацца ў таксістаў. Дык у чым, уласна, розьніца, запытаецеся вы?

Розьніца перш за ўсё ў адчуваньнях. Памятаю, што найбольш ціснула на мяне ў Беларусі — нават не безграшоўе і праклятая вечная “эканомія” на ўсім, а прадчуваньне, што ўсё тваё жыцьцё вядомае табе наперад — “да апошняй бярозкі”, як напісала мне сюды адна мая сяброўка. Тут жыцьцё вельмі зьменлівае, ніколі ня ведаеш, што адбудзецца на наступны дзень, да якіх наступстваў можа прывесьці выпадковая размова ў аўтобусе... Напэўна, гэтая зьменлівасьць і хуткаплыннасьць — галоўнае, што дапамагае навічкам пратрымацца на плаву.

Часам, калі асабліва пачынае прыгадвацца Менск, я ўяўляю сабе, што вярнуся — калі-небудзь. Спадзяюся, што Андрэй Дынько, які на пару з сынам Якубам стане на той час галавой найбуйнейшага ў незалежнай Беларусі выдавецкага дому, возьме мяне на працу. І я з задавальненьнем буду (паміж пісаньнем артыкулаў!) гатаваць эспрэса і капучына для наведнікаў славутай менскай кавярні “ARCHE”. Уяўляю, як мы будзем абмяркоўваць зь імі то апошні раман Ігара Бабкова, то першы зборнік вершаў Міраславы Булгакавай. Хто ведае?.. Мне спадабалася прадказваць.

**Віялета Кавалёва, Таронта**

# Рэзкая кніга

Арнольд Макмілін. Беларуская літаратура ў 50—60 г. XX ст.: Манаграфія / Пер. з анг. А.Літвіноўскай. — Менск: "Беларускі кнігазбор", 2001. — 332 с.: іл.




Беларускіх пісьменьнікаў 50—60-х гадоў умоўна можна падзяліць на тры катэгорыі — тыя, каго ў манаграфіях савецкага часу хвалілі, а Макмілін цяпер крытыкуе; тыя, пра каго савецкая крытыка пісала дрэнна (або маўчала), а Макмілін цяпер хваліць; тыя, чыя творчасьць аднолькава (пераважна станоўча) характарызуецца і аўтарамі савецкіх манаграфіяў, і Макмілінам. Ацэнкі Арнольда Макміліна часта разыходзяцца з тымі, якія мы знаходзім у школьных падручніках, і з гэтае прычыны могуць выклікаць самыя розныя эмоцыі — ад абурэньня да захапленьня. Выказвацца такім чынам айчынныя літаратуразнаўцы сабе не дазвалялі.

Рэзка піша Макмілін пра Петруся Броўку ("У лепшым выпадку апаратчык, у горшым — літаратурны жандар, Пятрусь Броўка быў пладавітым і бяздарным пісьменьнікам, які, калі не нападаў на іншых пісьменьнікаў ці не займаўся партыйнай прапагандай, праяўляў сябе як павярхоўны і нецікавы паэт са спрошчанымі думкамі і неарыгінальнымі формамі"), Пімена Панчанку ("Дзяржаўны дзеяч і энтузіяст, Пімен Панчанка служыць добрым прыкладам удачлівага савецкага паэта, якога наўрад ці доўга будуць памятаць у XXI стагодзьдзі"), Міхася Лынькова ("Літаратурна-крытычныя артыкулы і шматлікія пераклады Лынькова такія ж няўдалыя, як і ягоныя мастацкія творы"). Неадназначную ацэнку атрымлівае творчасьць Івана Шамякіна ("...У прозе Шамякіна няма амаль нічога спэцыфічна беларускага", "мнагаслоўныя" раманы "адрозьніваюцца хутчэй багацьцем апісаньняў і калізіяў, чым псыхалягічнай глыбінёю", "зьмест іх мяняўся як флюгер у адпаведнасьці зь лініяй ураду", але — "жывучы на Захадзе, Шамякін мог бы пасьпяхова пісаць бэстсэлеры"). Нельга сказаць, што Макмілін толькі крытыкуе. Шмат якія аўтары заслугоўваюць у яго самай высокай ацэнкі. Да прыкладу, Сяргей Дзяргай называецца "*паэтам для паэтаў*" і адным з самых тонкіх лірыкаў 50-х гадоў, Максім Танк характарызуецца як "насамрэч вялікі паэт, які зрабіў значны ўнёсак у беларускую паэзію", шмат добрых словаў можна прачытаць і пра творчасьць Янкі Брыля, Васіля Быкава, Уладзімера Караткевіча ды іншых.

Манаграфія не абмяжоўваецца храналягічнымі рамкамі 50—60-х, у ёй багата экскурсаў у ранейшыя (найчасьцей у 30—50-я) гады. Асобна ад асноўнай часткі стаяць нарысы пра творчасьць Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Пташнікава і Ўладзімера Караткевіча. Асноўная ж частка падзяляецца на тры разьдзелы: "Пяцідзясятыя гады — выхад зь цемры", "Паэзія ў шасьцідзясятыя гады — традыцыі й наватарства", "Проза і драматургія ў шасьцідзясятыя гады — час надзеі".

Акрамя ацэнак, манаграфія цікавая яшчэ і досыць поўным аглядам літаратурных зьяваў пазначанага пэрыяду, частымі цытатамі, мноствам дакладных біяграфічных і фактаграфічных зьвестак. Зь яе атрымаўся б добры навучальны дапаможнік.

Арнольд Макмілін піша ў прадмове, што заплянаваў яшчэ дзьве кнігі — пра літаратуру беларускага замежжа ды пра літаратуру 70—90-х гадоў. А вось накладу першай — усяго 700 асобнікаў — на ўсіх ахвотных можа не хапіць.

**Вольга Гурло**

# Зборнік для ўсякай патрэбы

*Там за гаєм, гаєм... Сучасні народні пісні та приказки, записані на Берестейщині.*
Укладальнік Мікола Казлоўскі. — Кіеў, 2000. — 114 стар. Наклад 1000 ас.

Ініцыятар выданьня, укладальнік кнігі і аўтар прадмовы 77-гадовы Мікола Казлоўскі, былы інжынэр-будаўнік, выклікае захапленьне сваёй энэргіяй. Вырашыў чалавек выдаць кнігу — узяў і выдаў. Ва Ўкраіне. І ня трэба ісьці па дазвол ні ў Дзяржкамдрук, ні ў Кніжную палату, ні ў аблвыканкам... Толькі вось цікава, ці была кніга ў продажы ў Беларусі, ці мог яе набыць кожны ахвотны?

У кнігу уваходзіць больш за 150 геніяльных песень. Для кожнай пазначана, дзе, калі і ад каго яна запісаная.




Выданьне найбольш цікавае, вядома, для жыхароў Берасьцейшчыны: прыемна перагарнуць старонкі са знаёмымі песьнямі, пашукаць назвы знаёмых вёсак, імёны знаёмых людзей. Шкада толькі, што няма да песень нотаў: з нотамі гэты зборнік мог бы стаць дапаможнікам для берасьцейскіх музыкаў. Песеньнік, складзены з гітоў (кшталту "Ой, на горі та й женці жнуць..." ці "Шумлять верби в кінці греблі"), якія голасна сьпяваюць на кожным вясельлі ды юбілеі, адрывалі б з рукамі.

Што тычыцца прыказак, дык сярод іх зашмат "заежджаных", кшталту "одна голова добре, а дві ще ліпш". У нас у Заказанцы даводзілася чуць нашмат больш красамоўныя (прыкладам, пра галаву — "чим кланятися чужій голові, ліпш своїй дупі").

А песьні геніяльныя. Лірычнымі, гістарычнымі, гераічнымі, жартаўлівымі, калядкамі ды шчадроўкамі, песьнямі пра каханьне і сьмерць выказваецца нязьменная сутнасьць існаваньня — тая самая у дваццаць першым стагодзьдзі, што і ў шаснаццатым. Якая? Каб зразумець, трэба, напэўна, прасьпяваць ня толькі ўсю кніжку, але й усё жыцьцё...

А мне асабіста вельмі спадабалася прыпеўка:

Ой, ти знав, нащо брав
Міщаночку з міста.
Я не їла і не буду
Гречаного тіста!

Ой, ти знав, нащо брав,
Я не вмію жати.
Зроби мені холодок —
Я буду лежати!

І цяпер я сьпяваю яе мужу кожную раніцу, калі ён спрабуе нагадаць, што пара ўставаць ды брацца за працу!

**Наталка Бабіна**

# Аркуш беларускі

Алесь Аркуш. Проста ў сярэдзіну. Вершы. — Вільня, 2001. — 64 с.

У жыцьці кожнага літаратара раней ці пазьней настае пара балючых і рытарычных пытаньняў, калі ён, як цікаўнае дзіця, што спазнае сьвет, заводзіць сваю катрынку: "Што рабіць?", "Хто вінаваты?", "А хто там ідзе?", "Як нам абуладкаваць Расею?", "Быць альбо ня быць сярэднееўрапейцам?", "З чаго пачынаецца Жодзіна?.." Для мяне Жодзіна пачалося з Аркуша. Менавіта Алесь Аркуш (аматарам атрымліваць літаратуру поштаю больш вядомы як "Аляксандар Козік") стаўся першым і пакуль апошнім сапраўдным жодзінцам, сустрэтым мною, як бы сам паэт сябе ні называў — палачанінам, рэгіяналістам, правінцыялам альбо проста таварышам усіх вольных літаратараў.

Упершыню Аркуш уварваўся ў маё жыцьцё праз тэлефон, каб замовіць пераклады знакамітага чувашскага паэта Генадзя Айгі. "Колькі плаціш за аркуш?" — ледзь не запытаўся я, ды своечасова стрымаўся. З таго часу так і супрацоўнічаю зь ім — на грамадзкіх пачатках.

Пазьней было знаёмства ў цягніку "Менск—Харкаў", якім мы ехалі на фэстываль "Паэзія нумар адзін". Аркуш глыбока ўразіў мяне тым, што ўсю дарогу не куляў гарэлкі, а якраз наадварот — чытаў кнігі. Ды шчэ й мяне падбухторыў, паказаўшы сьвежанадрукаваны нумар часопісу "Калосьсе". Так і чыталі ўдвух, пакуль іншыя дзеячы беларускай культуры радаваліся жыцьцю ў суседнім купэ. Хлапецтва, скажаце вы? А мне падабаецца, што ў душы ён застаўся крыху рамантыкам.

Нават пострамантыкам, як вынікае зь ягоных праграмных заяваў. Выхаваны "Тутэйшымі", ня зломлены Саюзам пісьменьнікаў, ня стомлены Парыжам, выпрабаваны развоем (ледзь не сказаў "разбоем"), Аркуш знаўся і на асаблівасьцях нацыянальнага ксэракапіяваньня, і ў квартале "Блакітных ліхтароў" быў сталым наведнікам. А далей ужо — трыдзясятае царства замежных вольных літаратараў ды зялёнае мора Айгі.

Менавіта апошняму й прысьвечаны верш, што падарыў назоў усёй кнізе, — "Проста ў сярэдзіну". Што азначае гэты загаловак, падазроны для папулярызатара рэгіянальнай літаратуры? Законнае жаданьне вярнуць Полацку калісь страчаную ім ролю культурнай сталіцы? Ці, магчыма, дантаўскае "Я пасярэдзіне жыцьця зямнога"? А можа, пошук гарацыеўскай "залатой сярэдзіны" ва ўсім, імкненьне да ўзважанасьці й памяркоўнасьці, разумнага балянсаваньня паміж крайнасьцямі: паэзіяй і прозай, молатам экспэрымэнту й кавадлам традыцыяў, айчынным пісьменствам і сусьветнай культураю, паміж пушчамі й балотамі беларускай зямлі ды пяскамі зямлі эгіпецкай?




Чытача кнігі ўражвае ўвага аўтара да птушынай тэмы: два цыклы — "Птушыны рай" і "Парыскія вераб'і", а таксама верш пра птушку-Свабоду, якую корміць з далоні лірычны герой. Аўтар выявіў тут неабыякі талент дзіцячага паэта. Усё ў гэтых вершах проста й стабільна, і кожная птушка паводзіць сябе так, як ёй і трэба паводле айчынных літаратурных канонаў. Лебедзь зьдзяйсьняе свой вычын у імя іншых. Зязюля кувае з выразным ляўкоўскім акцэнтам. Бусел кружыцца над роднаю хатай. А гусь, як ёй і належыць, рыфмуецца зь "Беларусь". Заслужаны арнітоляг Беларусі, пясьняр "птушынага раю" (слова "рай" тут — зусім не рэгіянальная прыстаўка да "выканкаму"!), Аркуш мог бы сёлета з поўным правам прэтэндаваць на Глінянага Вялеса ў намінацыі "птушка-суайчыньнік". Чайка зь імем Джонатан Лівінгстан, як сказала б Ганна Кісьліцына. Кірля на крылах кірыліцы, як сказаў бы я. Кнігаўка зь імем Алесь Аркуш. Што ж, кажуць, што рэкі птушкамі створаны, і наш паэт упэўнена капае рэчышча ўласнай ракі.

Нядаўна адна сяброўка апавядала, як спрабавала замовіць у чытальнай залі філфаку БДУ газэту "Наша Ніва". Бібліятэкарка ветліва растлумачыла: "Мы сельскагаспадарчых выданьняў не выпісваем". Напраўду, "аграрнасьць" назоваў нашых культурных выданьняў кідаецца ў вочы, і "Калосьсе" Аркуша тут ня вынятак. Але ж ці прыдумаў чалавек лепшую мэтафару для культуры? Дый не мэтафару зусім, бо кожны слоўнік лаціны падкажа, што "культура" — гэта найперш "земляробства". Зерне, кінутае ў ніву, усходзе ды красуе, нават калі камбайнэр ня ведае цытаты. Так што рабі сваю "аграрную" справу й далей, шаноўны Алесю Аркуш!

"Калосьсе" — пад сярпом тваім! А лёс новай кнігі — у руках нашых чытачоў, якім засталося яе набыць і пачаць чытаць. З тытульнага аркуша. Альбо зазірнуць проста ў сярэдзіну.

**Андрэй Хадановіч**

# Дэфлярацыя стэрэатыпаў

**У Беларусі ёсьць анархісты. Іх няшмат, але яны гучныя. Яны выдаюць газэту "Навінкі", зьнялі фільм "Случай з пацаном" і ўдзельнічаюць у Маршы свабоды пад транспарантам "Працоўны калектыў газэты "Навінкі".**

**Мова іхных выданьняў клясычна-неўпарадкаваная. Аўтары ўнармавана карыстаюцца ненарматыўнай лексыкай. Ужо самі назвы іхных твораў выклікаюць паблажлівую ўсьмешку ў чалавека, выхаванага на клясыцы. Ну што гэта за "Случай з пацаном"? Як гэта можна прадстаўляць кнігу ў такой рэспэктабэльнай правай газэце, як "Наша Ніва", артыкулам пад назвай "Дэфлярацыя стэрэатыпаў"?**

**Вось такія яны правакатары, узаконеныя байструкі сучаснага капіталістычнага грамадзтва, — беларускія анархі. Бунтары і паразыты, разбуральнікі і пры гэтым марыянэткі на службе ў моцных гэтага сьвету.**

**Але ад выпушчаных анархамі малой памаранчавай кніжыцы "Свабода@без.цябе" і кароткамэтражнага фільму "Случай з пацаном", зьнятага паводле ўсіх правілаў хатняга відэа, можна атрымаць і эстэтычнае, і інтэлектуальнае задавальненьне.**

**Сьвятарную кашу з камэндантаў Маркесаў і ненавісьнікаў Мілошавіча, здаровага дзіцячага сьмеху і ўсёпранікальнай пустэчы лёзунгаў для чытачоў "НН" тлумачыць Лёлік Ушкін.**



У 1967 г. група страсбурскіх анархістаў захапіла кіроўныя пасады ў мясцовай філіі афіцыйнага студэнцкага прафсаюзу. Першае, што яны зрабілі, дарваўшыся да ўлады, — "сьпіянэрылі" ўсе грошы з прафсаюзнай касы й надрукавалі буйным накладам працу ідэоляга Сытуацыяніссцкага Інтэрнацыяналу П.Ванэнгайма "Аб беднасьці ў студэнцкім асяродзьдзі". Выпадак меў гучны рэзананс. Анархістаў нават судзілі за марнаваньне прафсаюзных грошай. Аднак было позна: кніга пайшла гуляць па сьвеце і зрабілася эвангельлем студэнцкай рэвалюцыі 1968 г.

Прыкладна такім самым чынам выйшаў у сьвет зборнік "Свабода безь цябе". "Бабкі-павітухі" гэтага праекту — былыя анархісты, пацыфісты й артыстычныя багемшчыкі, якія апынуліся ў радзе дырэктараў польска-беларускага фонду. Разваліўшыся ў фатэлях, былыя панкі задумаліся: што рабіць?

На выбар было некалькі варыянтаў:

а) тупа ладзіць сэмінары "Прававыя асновы маніторынгу прававога маніторынгу лукашэнкаўскіх псэўдаправавых маніторынгаў", якія традыцыйна сканчаюцца грандыёзным бухалавам;

б) кідаць амэрыканцаў на "грыны"; нашаткаваць капусты і потым набыць катэдж у адным зь ціхіх кварталаў Варшавы;

в) зрабіць нейкую правакацыю, кшталту зборніка "Свабода безь цябе".

Што гэта за зборнік? Падборка лекцыяў, якія чыталіся ўдзельнікам польска-беларускіх сэмінараў. Зазвычай лектарамі былі лідэры моладзевай апазыцыі другой паловы 80-х. Дзякуючы зборніку беларускі чытач упершыню даведаецца пра моладзевую фракцыю тагачаснай польскай антыкамуністычнай апазыцыі. Ні ў адной брашурцы "Салідарнасьці" пра яе няма ні слова, бо гэтая апазыцыя ўзьнікла адначасова як рэакцыя на камуністычны прыгнёт і на эстэтычнае ўбоства клану Валенсы.

Акцыі маладых апазыцыянэраў нагадвалі болей балаган, рок-канцэрт, дзе антыкамуністычныя лёзунгі спалучаліся з прыёмамі агітпропу і традыцыямі *dell'Arte*. Яскравае парушэньне іерархічных традыцыяў апазыцыйных мітынгаў, блюзьнерствы маладых накаўтавала бацькоў "Салідарнасьці".

У другой палове 80-х маладая апазыцыя, якая аб'ядноўвала андэграўнд і палітыку, набыла салідныя маштабы. Ва Ўроцлаве "Памаранчавая альтэрнатыва" выводзіла тысячы людзей на свае гепэнінгі, у Гданьску футбольныя фанаты пад чорнымі сьцягамі калацілі "гліняжаў", пацыфісцкі рух *WiP* дзякуючы масавым кампаніям дабіўся прызнаньня праву дэзэрціраў. У 1988 г. амэрыканскі *Newsweek* пісаў, што Лешак Калакоўскі разьбіў камунізм пафілязофску, "Салідарнасьць" — палітычна, а "Памаранчавая альтэрнатыва" — эстэтычна.

Прыйшла перабудова. Тое, чаго не атрымалася ў Ярузэльскага, зрабіў даляр. Рынкавыя ілюзіі зьнішчылі адзін з самых цікавых экспэрымэнтаў польскай культуры.

"Свабода безь цябе" — гэта нязьдзейсьнены ідэал, чарговая ўтопія, мроя, якая ператварылася ў дым пры сутыкненьні з суровай рэальнасьцю.

Па сутнасьці, гаворка ідзе пра мадэль грамадзкага руху, дзе крыніцай палітычнай пазыцыі ёсьць не ідэнтыфікацыя з партыйнымі праграмамі, а дзейны нанканфармізм. Аўтары зборніка намагаюцца перагледзець дэфініцыі бунту і праграму дэмакратычнай апазыцыі ў духу школы Маркузэ і сытуацыяністаў. Палітычным абвяшчаецца ўсё пэрсанальнае. Каб маніпуляваць асобай, сыстэма (аўтарытарная сама па сабе) пранікае паўсюль: у школы, сям'ю, нават паводзіны. Вызваленьне пачынаецца на індывідуальным узроўні з парушэньня стандартаў.

Свабода безь цябе — гэта тэст. Калі вы "прапрацеся" ад зборніку, то вы яшчэ здольныя рабіць пэрфомансы, пакахаць гомасэксуаліста, падняць сялянскае паўстаньне, як Маркес у Чыяпасе. Калі не прапрацеся — маеце шанец стацца сур'ёзным палітыкам, дэпутатам у парлямэнце расейска-беларускага саюзу.

Мінусы. Не хапае кітчу на вокладцы — голай бабы або "Пагоні". (Або голай пэрсаніфікацыі свабоды на рыцарскім кані.)

**Лёлік Ушкін**

## Алесь Разанаў
# РЭЧЫ



**I**

Раскопваюць гарадзішча.
Выкопваюць рэчы.
Вось рэч-рука,
вось рэч-нага,
вось рэч-моц,
вось рэч-улада...
Рэчы — апошняе цела людзей,
якое жыве найдаўжэй.

За рэчы трымаюся,
аб рэчы абапіраюся,
атрымліваю ў спадчыну рэчы...
Рэчамі мерацца мой час,
акрэсьліваецца мая прастора,
бязь іх я губляюся,
бязь іх я зьнікаю,
бязь іх я нічога ня значу сам.

На торжышчы,
дзе ўсё набываецца і прадаецца,
пытаюся ў рэчаў, як іх завуць.
Яны называюць мае імёны.

**II**

У крамных вітрынах
павыстаўляныя рэчы —
мо для сустрэчы,
а можа, для разьвітаньня.

Нібы ля сваіх дарагіх нябожчыкаў,
мы спыняемся каля іх,
аглядаем іх,
убіраем іх у душу і ў памяць.
І адчуваем, хвалюючыся,
што зь імі нас зьвязвае
таемнае падабенства,
бы некалі, напачатку,
калі Бог тварыў сьвет,
мы былі гэтаксама рэчамі
і будзем некалі зноў.

Усё, чым багаты мы, — гэта рэчы,
і ўсё, перад чым мы выяўляемся багамі, —
яны.

Мы адыходзім далей.
Але застаюцца ў вітрынах рэчы,
а ў рэчах — мы.

**III**

Зьнікаюць знаёмыя рэчы.
Я зь імі звыкся, і мне іх шкада.

Шукаю — аднак у прасторы няма іх,
а ў часе, бы ён пастарэў,
паўтвараліся зьвіліны
і, напэўна, схавалі іх.

Рэчы — уцялесьненае *маё*;
але як загадаць мне, каб зьвіліны зьніклі,
а рэчы, якія зьніклі, знайшліся зноў?!..

**IV**

У гэтым горадзе Ян незнаёмец:
ніхто не бярэ яго на работу
і ня мае ніякай патрэбы ў ім.
Доўжацца дні, не прыносячы зьменаў,
і тады Ян становіцца на ўзвышэньне
і прыкідваецца, што ён — рэч.

І гэтая рэч пачынае ў марудных рухах
пераступаць з нагі на нагу,
паварочваць галаву,
падымаць то адну, то другую руку,
нахіляцца,
абмацваць твар,
і ўсе, хто ні ёсьць на пляцы,
зьдзіўляюцца ёй, захапляюцца,
пляскаюць ёй у ладкі,
заахвочваючы, каб паказала,
на што яна здатна яшчэ, і ў аддзяку
кладуць у пакладзеную побач шапку
хто марку, хто дзьве.

**V**

У спадзяваньнях, блуканьнях, стратах
мінае наш час
і, мінаючы, здабывае з нас,
бы з руды, адказ.

Яшчэ мы ня зьдзейсьненыя,
і зьмены трывожаць наш розум:
мы нават ня ведаем,
што нам належыць думаць
і што — жадаць.

Мы — спроба,
і знакі, якія накрэсьліваем, сьціраем.

І Бог, пакідаючы нас,
нам укладае ў рукі прыладу,
якою парадкуецца рэчаіснасьць, —
рэч.

**VI**

Палічаны нашы патрэбы,
магчымасьці зьмераны,
і чалавек чалавеку ня брат і ня вораг,
а — рэч.

Нібы засыхае карэньне
ці высыхае студня,
мы гінем, паволі і незаўважна,
у месца, пазначанае на паверхні,
і сьвет, скарыстаны і зьведаны,
не знаходзіць слова для нас.

Самотнымі доўгімі вечарамі
Ян думае пра Айчыну
і песьціць у сэрцы малітву:
"Прыйдзі і ўсталюй сваё валадарства
і выбаві нас з абдымкаў нашых
набыткаў, *нябыт*!.."

**VII**

На сьвяты ці так, з нагоды,
дорым адно аднаму
падарункі — рэчы.

Страцілі нашы думкі даўно ўжо сілу,
а словы — вагу, і рэчы — самае большае,
што мы можам даваць і браць.
Мы ў рэчах вычэрпваемся, і калі,
быццам сьціраемся, мы зьнікаем,
на сьвеце яшчэ нейкі час застаюцца
нам прыналежныя некалі рэчы —
як напамінак пра нешта, чаго няма.

**VIII**

Зь бязьлюднага храму
ўваходзім у людную краму.
Так і павінна быць:
людную крама, а храм бязьлюдным?!..
Нам цяжка, амаль немагчыма даўмецца,
чаму нас пакінуў і не бярэ сабе нанова Бог:
магчыма, мы надта належым сабе,
і Бог для нас нехта ці нешта,
як рэч ці асоба, — але ніякі,
нат самы разумны, адказ,
які вынаходзіцца намі,
ня ў стане ўкласьціся ў *паварот*.
Калі-нікалі нас наведвае адчуваньне,
што мы на парозе:
хвіліна — і абвесьціцца перамога,
дзе пераможцаў няма,
але мы ступаем далей —
і нас разьбіраюць рупна
знаёмыя нам заняткі,
і рэчы, адна за аднюю,
купляюць нас.



**IX**

Калі прыяжджаем у знаны,
ці нават ня дужа, горад, ходзім па вуліцах
і фатаграфуем, на што ўпадзе зірк:
будынкі, пазначаныя падзеяй,
помнікі ў гонар кагосьці альбо чагосьці,
відовішчы, краявіды, — і просім
другіх, каб тыя сфатаграфавалі
таксама нас. Потым, калі разглядаем
і раскладаем здымкі і тое, што нам
не належыць, трымаем, нібы сваю
ўласнасьць, напроці сябе ў руках,
мы кажам прысутным:
гэта — райхстаг,
гэта — кірха з дванаццатага стагодзьдзя,
гэта выстава модаў,
а гэта я, —
і на момант у гэты момант
зьнікаем у разуменьні,
што мы яшчэ нават ня рэч,
мы — прадрэч,
мы — пярэдадзень рэчы,
і толькі калі выпадаем зь яго,
пагаджаюцца рэчы
нас ураўняць з сабою ў правах.

**X**

Быццам ім хоча скласьціся песьня,
Ян пакідае ў мінулым рэчы, а сам
падаецца туды, куды яго вабіць
дзівосны, бязгучны яшчэ, матыў.

Ён штосьці шукае, але, калі пытаюцца —
што, адказаць ня можа: тое, чаго ён
шукае, напэўна, нельга ні ведаць, ні мець.

Стаіць сярэдзіна лета. Жанчыны
бяруць у вусны сьпелыя вішні.
Селяцца ў блізкіх палетках сны.

"Калі я сустрэну тое,
што мусіць са мной сустрэцца,
яно распазнае мяне адразу", — думае Ян.
І залевы ў ім любяць смагу,
а людзі — нябыт.

## Тамаш АГАТОЎСКІ

* * *

*Тым, падарожным.*
*Тым, веруючым у імя заўтра.*

Божа, Ты мой Сызыф.
Гэта я, Твой камень.
Не пакідай мяне.

**Пераклаў з польскай Алесь Чобат**

## Арцём АРАШОНАК

* * *

Па вуліцы ідзе жанчына,
Абцасамі па асфальце
Адгукаецца яе адзінота.

## Яўген БУРЫ

*ВЁСКА*

Змучаная зімоваю завірухай,
зьніклая з карты,
яна лашчыцца на тваёй далоні...
і кідаецца ў вочы
пасьля трапнага "ня лёс",
а можа, і "лёс".
Нічога не разумеючы,
то глядзіш на бязьлюдныя вуліцы
той далоні
і забываешся на ЯЕ —
сваю сьвядомасьць, —
трэба ісьці раскідаць сьнег.

## Анатоль ГАРАЧОЎ

*У ПОШУКАХ ПАВАГІ*

Нямоцна нас калісьці паважалі,
У час, як нерушымы быў Саюз:
"Цыбуляй" нас і "бульбай" называлі,
Нібыта сьмецьце мы ці нейкі друз.

Даўно мы ўжо прывыклі да зьнявагі
І зь ёю перайшлі ў новы век.
Пры панскай Польшчы больш было
павагі
І панам зваўся кожны чалавек.

Чые ж грахі ў рай нас не пускаюць?
Мо самі моцна грэшнымі жывём?
Што фабрыкі, заводы выпускаюць,
Задарма чорту лысаму даём.

У рот чужы мы любім заглядаць,
Ад мовы роднай круцім мы насамі...
Ня будуць нас ніколі паважаць,
Калі сябе не паважаем самі.

## Павал ЗЬМІТРУК

* * *

Гэйма збройным раньнем,
Ваяры, у дарогу!
Хто ня знаў Каханьня,
Хто ня бачыў Бога.

Дзе балюе сіла —
Не ў пашане літасьць...
Жалю не прасілі —
Лепей быць забітым,

Чым прасіць спагады.
Чым зайцамі бегчы,
Хай мы будзем рады
За Айчыну легчы.

Хай мы збройным раньнем,
Вернікі дарогі,
Крывей жыльнай з ранаў
Намалюем Бога.

## Марыя ЛАГОДЗІЧ

* * *

Навучы мяне слухаць неба
і маліцца адзінаму Богу.
І я стану тваёю нявестай,
блаславёнай зямлёй і нябёсамі.
Навучы мяне слухаць неба,
і я буду табе тлумачыць
колер словаў, табой прамаўлёных,
колер гукаў, табой прасьпяваных.

Я малюся адзінаму Богу:
Божа, зьлітуйся, Божа, над намі...
Я тлумачу табе колер гукаў...
Навучы мяне слухаць неба.

## Ганна МАТУСЭВІЧ

* * *

Я абвяшчаю вам Каханьне
На ўсё жыцьцё,
На ўсе вякі вякоў
І не прашу ад вас прызнаньня.
Я абвяшчаю вам Каханьне
Як вечны мір, як вечны бой!

Я пакараю вас Каханьнем
На ўсё жыцьцё,
на ўсе вякі вякоў!
Хай будзе Сьветла вам і на расстаньне
Са сьветам гэтым,
З нашаю Зямлёй!
Я вызваляю вас Каханьнем
Ад страху, пошасьці, хлусьні.
Сябры мае! Я вас кахаю,
А ворагаў люблю сваіх.
Я абвяшчаю вам Каханьне
На сёньня, заўтра, назаўжды...

## Юлія ШАЛІМА

*МАЛЮЮ*

Сёньня я малюю. Малюю маленькія
Зялёненькія квадрацікі...
Чаму менавіта маленькія і зялёненькія?
Ды таму, што не хапае таленту
Намаляваць вялікі і чорны квадрат.

## Андрэй ВОЙТ

*ЖЫЦЬЦЁ*

Раніца - дзіцячы садок - вячэра -
спаць.
Раніца - школа - вячэра - спаць.
Раніца - унівэрсытэт - вячэра - спаць.
Раніца - праца - вячэра - спаць.
Раніца - пэнсія - вячэра - спаць.
Раніца - сьмерць.

## літаратурны сэмінар

**Генадзю Бядзе**. Верш "Крокам! Руш!" лепшы за "Зімовы ранак", але ўсё ж і ў ім, як і ў любым паэтычным творы, калі ён не напісаны свабодным вершам, трэба сачыць за рытмам і рыфмай.

**Андрэю Гайсу**. Ёсьць някепскія радкі. На жаль, іх малавата.

**Марыне Лукашэвіч**. "Я хачу пісаць на роднай Мове...", і гэта ў Вас атрымліваецца няблага. Трэба ўдасканальвацца далей.

**Зьмітру Панкаўцу**. "Вільню" хоць Вы і "штодня ляпілі з гліны", але да канца справу не давялі. Пачытайце Багдановіча.

**Ганьне Неўгень**. Добра, што Вы хочаце стаць беларускай журналісткай. Але журналісты пішуць у газэту ня вершы, а артыкулы. Можа, Вы, калі дасылаеце вершы, хочаце быць беларускай паэткай?

**Бажэну**. "Ці буду жыць, Ці будзе жыць Беларусь мая?" — адказ на гэтае пытаньне ў кожнага свой. Вы захацелі на пытаньне адказаць вершам, а верш і не атрымаўся.

**Віктар Шніп**

# Аднарогі Беларусі

**Сяргей Балахонаў**

Улетку 1928 г., падчас раскопак гарадзішча Банцараўшчына ў ваколіцах Менску, археоляг Сяргей Дубінскі між іншага выявіў рог даўжынёю 1,9 м. Знаходка тады была ідэнтыфікаваная як рог валдайскае казы й здадзеная ў архіў. У 1935 г. прыбіральшчыца, выводзячы мыш'яком (As) архіўных пацукоў, выпадкова сыпнула крыху атруты на рог. Той нечакана зьмяніў колер, зрабіўшыся з шэрага бледна-ружовым. Тэрмінова выкліканы Дубінскі адразу зразумеў, што мае справу з рогам не валдайскай казы, але аднарога — вымерлай траваяднай непарнакапытнай жывёліны, чыя лобавы рагавы нараст мог, паводле сярэднявечных крыніцаў, зьмяняць колер пад узьдзеяньнем атрутных рэчываў. Аднак археоляг ясна здаваў сабе справу, што бальшавіцкая ўлада, якая адмаўляе Бога, будзе адмаўляць і аднарога. Адкрыцьцё Дубінскага абмяркоўвалася ў навуковых колах БССР кулюарна, паўшэптам. А ў 1937 г. ён быў арыштаваны й расстраляны як польскі шпіён, бо меў сваякоў у Заходняй Беларусі. Рог праходзіў па справе ў якасьці рэчавага доказ, а пасьля зьнік у спэцсховах, як мноства іншых рэліквіяў беларускага народу.

Наша сёньняшняя навука, згодна з савецкай традыцыяй, упарта заплюшчвае вочы на шматлікія пацьверджаньні існаваньня аднарогаў. Таму й фігуруе гэтая жывёліна ў энцыкляпэдыях прыдуманых і звышнатуральных істотаў. Тым часам першыя згадкі пра аднарога сустракаюцца ў гімнах "Атхагва-Веды" — там ён зваўся аднарогай антылёпай, хоць насамрэч быў больш падобны да статнага белага каня з доўгім рогам у лобе. Аднарогаў згадвалі Ктэсіюс, Пліністи, грэцкі "Фізыёляг" ды іншыя крыніцы. Алегорыі, зьвязаныя з гэтай жывёлінай, сустракаюцца ў Бібліі. Апісаньні аднарога ва ўсіх гэтых крыніцах розьняцца, бо мала хто меў шчасьце бачыць яго.

**На тэрыторыі Беларусі аднарогі зьявіліся недзе ў сярэдзіне мэзаліту. У часы Полацкага княства яны былі неад'емнай часткай беларускае фаўны. На так званай Равэнсбурзкай мапе сьвету (Нямеччына, XIII ст.), побач з гарадамі** *Poloscko* (Полацак), *Vidupsko* (Віцебск) ды неідэнтыфікаваным тапонімам *Scimelne* (Смаленск? Шуміліна?!), намаляваныя лось, зубр і аднарог, якія сымбалізуюць тагачасны жывёльны сьвет нашае зямлі. Пра існаваньне аднарогаў сьведчыць і выяўлены ў Навасібірску ўрывак з пратографу Радзівілаўскага летапісу, у якім гісторыя пра паланеньне Ўсяслава Чарадзея й яго наступнае княжаньне ў Кіеве крыху розьніцца ад традыцыйнай вэрсіі. Так, у агульнавядомым сьпісе ўсё скачаецца тым, што "...*приде Белугороду Всеслав... утаився кыян бежа к Полотьску*". У знойдзеным дакумэнце ўдакладняецца: "*инорогом бежа к Полотьску*". Усяслава не дарэмна клікалі Чарадзеем: аднарога, паводле сярэднявечных уяўленьняў, мог закілзаць толькі чалавек звышнатуральнае сілы, з экстрасэнсорнымі здольнасьцямі.

Таму аднарогаў рэдка прыручалі, часьцей на іх проста палявалі. У Сярэднявеччы лічылася, што злавіць аднарога можна толькі адным спосабам: "панну цнатлівую прывесьці ў лес, абы зьвер, усчуўшы пах ейнай беспахібнасьці, зызволіў прыйсьці голаў свой паклась ці ёй на ўлоньне, аддаючыся ў цянёты лоўчых". Пасьля паходу на полацкія землі (1084 г.), кіеўскі князь Уладзімер Манамах пісаў: "*И на осень идохом с черниговци и с половци, с читьевичи к Меньску: изъехахом город, и не оставихом у него ни челедина, ни скотины, там то ж убихом трех инорогов*" (гл. праўдзівы сьпіс "Павучаньняў Манамаха"). Якім чынам князь упаляваў іх — не паведамляецца. Відаць у палоне, які ён вёў у Кіеў, былі цнатлівыя дзяўчаты, што сталіся прынадаю. У няволі зьвер хутка паміраў, сьпяваючы перад сконам надта жаласную песьню.

Беларусаў заўжды ўражвала нечаканасьць, зь якой аднарог зьяўляўся, і хуткасьць ягоных перамяшчэньняў. Ня дзіва, што ён лічыўся гаспадаром беларускіх нетраў, якому вядомыя таемныя падзямельныя шляхі:

У нас індрык-зьвер усім зьвяром<br>айцец.<br>А чаму індрык-зьвер усім зьвяром<br>айцец?<br>Ходзіць ён па падзямельлі<br>Прачышчаець руч'і да праточыны:<br>Куды зьвер пойдзець -<br>Там вада бруіць.

Гэтыя радкі ўзятыя з архаічнага народнага верша, занатаванага ў сярэдзіне XIX ст. на Магілёўшчыне Фэрдынандам Онкельбартам.

Беларускі эміграцыйны дасьледчык К.Рывіч, із спасылкаю на А.Віюка-Каяловіча (XVII ст.) даводзіў, што герб "Пагоня" на мяжы XIII—XIV ст. меў варыянт, на якім замест каня быў аднарог. Увогуле, у беларускай геральдыцы гэты вобраз быў распаўсюджаны вельмі шырока. Герб зь ягонай выяваю ("Боньча") мелі 40 шляхецкіх фаміліяў ВКЛ, сярод якіх Асмалоўскія, Букоўскія, Булаты, Грахоўскія, Куніцкія, Раманоўскія, Шушкевічы, Яблонскія...

Ян Хрызастом Адынец (верагодна, сваяк філямата Антона Эдварда Адынца) да свайго артыкулу, прысьвечанага жывёльнаму сьвету ВКЛ, прытачыў колькі цытатаў зь неапублікаванай на той час (1815) "Кронікі Быхаўца". Між іх ёсьць і такая: "...*дубровы раскошны і размаітае ужытосьці напоўненых, ва зъвярох рожнага рожаю, то ест найпервей тураў, зуброў, ядзінарогаў, лосей, аленей, сарн, рысей, куніц, лісіц, белак, гарнастаеў і інных размаітых рожаеў*". З усіх публікацыях "Кронікі" згадкі пра аднарогаў былі выкінутыя.

Паляваньне на аднарога бязь ведамай прынады было вельмі небясьпечным для жыцьця паляўнічага. Таму рэлігійны дзеяч ВКЛ Рыгор Цамблак пра кожную безвыходную сытуацыю гаварыў: "*Тое чыніці, яко бяз дзевы еднарожца лавіці — рэч сліозная і крывавая*".

Між тым, існавалі яшчэ па меншай меры чатыры спосабы паляваньня на гэтага зьвера. Мікола Гусоўскі падрабязна апісаў кожны зь іх у сваёй невядомай паэме "Сьпеў пра аднарога", рукапіс якой захоўвася ў бібліятэцы Ватыкану да 1942 г., а потым бясьсьледна зьнік. Мяркуючы па бібліяграфічным апісаньні, паэма апавядала пра княжаньне Сьвідрыгайлы й грамадзянскую вайну ў ВКЛ сярэдзіны XV ст.

Апісаньне ж дзікага паляваньня на аднарога знаходзім у "Дыярыюшы" менскага пісара Гаўрылы Асташковіча (канец XVII ст.). Напісаны па-старабеларуску арыгінал страчаны, захаваўся толькі пераклад на ідыш, зроблены невядомым рупліўцам зь менскае сынагогі. Апублікаваны ён быў у паўцыркулярных "*Дополненияхъ къ еврейскому архиву*" (1896, Т.24, отд. 11). Зьвернемся да цікавага нам эпізоду дыярыюшу ад 4 лістапада 1582 г.: "Мы адправілі напярэдадні віжоў, якія далажылі дакладна, у якіх гушчарах бавіцца той зьвер. Назаўтра ...мы рушылі да той мясьціны, абы ўзяць аднарога ў аблогу. Сяляне з траскаталкамі й бразгаталкамі йшлі. Мноства чаляднікаў зь сеткамі, а мы — бальшынёю конна — із стрэльбамі. Ніхто не хаваў жаданьня забіць зьвера дзеля яго чароўнага рога. Неўзабаве ён завіднеўся яўне пераляканы й мітусьлівы, кідаўся прэч, але натыркаўся на чаляднікаў зь цянётамі й каламі. Хто зь іх накінуў-такі на зьвера сетку. А мы, узрушаныя й захопленыя азартам, стрэлілі супольна. Зьвер стаў шалёна трапятацца, чапляючы на рог усіх, хто апынаўся побач, а так уцячы імкнуўся, чаго мы ніяк прызволіць не маглі. Для таго, паўтарыўшы стрэльбы, зьмярцьвілі зьвера адчайнага. Толькі трудна сказаць, ці займелі мы з таго радасьці".

У актавых кнігах "замку гаспадарскага Пінскага" ёсьць дакумэнт, датаваны лютым 1624 г, у якім возны пінскага павету Павал Высоцкі скардзіўся на Крыштофа Быкоўскага, арандатара земляў князя Юр'я Чартарыйскага за сваволю, "Быкоўскі той кгвалтом ноцью на імене яго наехаў а ўзяў дачку яго, якая стан дзявічскіх мевала, а то для таго, жэбы інарожца на землях пана Высоцкага пабіці". Дакумэнт быў апублікаваны ў 1899 г. зь відавочнай памылкай: заміж "інарожца" надрукавана "інародца".

У часе Паўночнае вайны (1700—21) беларускія аднарогі нападалі на расейскіх і швэдзкіх жаўнераў. Скончалася гэта летальна для чужаземнікаў. Сьмерці, зазвычай, тлумачыліся алькагольным атручаньнем, бо сьмяротна параненыя трызьнілі пра "*белого пронзающего коня*" (расейцы) ды пра "Одына на фінскім алені" (швэды). Магнацкія групоўкі ды іхныя ачольнікі не зважалі на патрыятычныя ўчынкі незвычайных жывёлаў і пасьля вайны працягвалі паляваць на іх. Так, Геранім Флярыян Радзівіл у сваіх нататках згадаў пра адметны паляўнічы трафей: "Аднарогавых рагоў два, колеру слановай косьці, натуральна наўскос закручных. Творачь рэч для вока цікавую, бо рог такой велічыні, што ёсьць адзін 100 цаляў, а другі 103 у даўжыню, гэтулькі тая шэльма несьці магла" (гл. "Спадчына". 2000. №3. С.130).

Напярэдадні разбораў Рэчы Паспалітай беларускія аднарогі былі ўжо практычна вынішчаныя. Апошняга замардавалі расейскія жаўнеры ўлетку 1863 г. Пра гэта паведамляюць "*Мемуары об усмирении поляков в Западном крае*" Паўла Шырвіндта ды "*Жменя ўспамінаў з 1863 г.*" Марыі Цымэр. Трагедыя адбылася недалёка ад Баранавічаў у раёне вёсак Канькі й Федзюкі 25 чэрвеня (6 ліпеня). Расейскі афіцэр Шырвіндт прыгадваў: "*Мы все имели возможность убедиться, что неподалёку действительно обитает некой дикой конь, коего местные русские селяне прозвали "аннорогом". Описание оного животного совпадало с описанием лошади, на которой разъезжал возмутитель покоя в Западном крае Викентий Калиновский, разбрасывая подстрекательские листки на польском языке*". Расейцы згадалі даўнейшы спосаб паляваньня. "*Мы собрали особую группу, которая обязывалась изыскать в окрестностях невинную девицу благородных кровей лет шестнадцати-осьмнадцати от роду, что вскоре, не без трудностей, было сделано*", — паведамляе Шырвіндт. Удзельніца паўстаньня Марыя Цымэр тыя пошукі апісала гэтак: "Маскалі шнырылі па вёсках і вышуквалі цнатлівае паненкі. Ня знаючы іхных намераў, усе адказвалі адмоўна. Тады яны сталі папросту хапаць і гвалтаваць усіх дзеўчын ад 12 да 20 гадоў. У такі шайтанскі спосаб задаволілі свой інтарэс. Шукаючы адну, зганьбілі колькідзясят сумленных паненак". Пад пагрозаю сьмерці была ўзятая сямнаццатка Віялета Трэмбачэўская й заведзеная ў мясьціну, дзе бачылі аднарога. "Рукі, ногі панны Віялеты былі крэпка зьвязаныя, — піша Цымэр. — Яна, сплаканая, сядзела пад векавым дубам і чакала на немавед што, бо так загадалі расейцы". "*Польчонка всё время хныкала и пыталась убежать. Однако наши благостные пожелания возымели должный эффект, и она преспокойно села под противною кривою литовскою сосной*", — адзначана ў Шырвіндта. Салдаты стаіліся ў схове. Зьвер ня змусіў сябе чакаць: "Раптоўна зь лесу паказаўся аднарог... Прыгожы й зіхотка белы зьвер крочыў цьвёрда й годна, хоць адчувалася, што ён гатовы скарыцца лёсу й Віялеце. Аднарог наблізіўся да паненкі й стаў перад ёю на калені. Тут яго маскалі й злавілі". "*Признаться, нам было немного стыдно*, — у сваёй манеры цьвердзіць расейскі афіцэр, — *худая сивая кляча с рогом во лбу появилась из перелеска, еле двигая ногами, а перед самой сосной споткнулась и упала наземь, едва не покалечив своим рогом польчонку* ". У палоне аднарог прытрываў нядоўга, а паміраючы, гучна засьпяваў чалавечым голасам. "*Песня была на западнорусском диалекте и многие обстоятельства содержания оной оказались тяжкими к уразумению, но в общем кляча пела о двух типах музыки – увеселительной и грустной, отдавая предпочтение последнему*", —пісаў Шырвіндт. Усё выдае на тое, што тая апошняя песьня аднарога нам добра вядомая як "Мая дудка" Францішка Багушэвіча. Будучы паэт, паўстанец 1863-га, пераапрануты бязногім старцам, сачыў за перамяшчэньнем расейскіх войскаў. Зацікаўлены рухам у лягеры Шырвіндта, ён папоўз туды й здолеў праціснуцца да самае загарадкі, у якой канаў на гнілой саломе апошні беларускі аднарог. Ягоны разьвітальны сьпеў яшчэ болей умацаваў нацыянальную сьвядомасьць Багушэвіча. На адыход Францішак незаўважна падпаліў лягер з чатырох канцоў. Праз усе нягоды паўстаньня і доўгія гады выгнаньня пранёс Багушэвіч аднарогаву песьню. Надрукаваўшы яе, ён выклікаў чарговую хвалю беларускага адраджэньня зь Беларускай Сацыялістычнай Грамадой, "Нашай Нівай", Максімам Багдановічам... Таму мы павінны нележна ацаніць значнасьць апошняга беларускага аднарога й назваць у ягоны гонар адну з цэнтральных вуліцаў, а лепш плошчаў сталіцы.

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Вільня.** У Вільні ў нядзелю здарылася ўбійства ў белы дзень сярод люднай вуліцы. Інжынэр Мажэйка, спаткаўшы на рагу вуліцы Віленскай і Ягораўскага праспэкту жонку сваю, каторая ішла са студэнтам Ліўшыцам, нічога ня кажучы, дастаў з кішэні рэвальвэр, выстраліў у Ліўшыца і забіў яго на месцы. Пасьля ўбійства Мажэйка аддаў рэвальвэр паліцыі, а сам, сеўшы на ізвозчыка, паехаў у паліцыю і аддаўся ў рукі паліцыі.

**23 лютага (7 сакавіка) 1912 г. №8**

Працяг са старонкі 1.

# ЦЁТКІ

Адам Глёбус

У Баравіковай ёсьць нешта чароўнае, што ўзьдзейнічае на большасьць мужчынаў, як эратычны магніт. На жаль, на мяне тая сіла не ўплывае, любуюся ёй нібыта збоку. Мастак ува мне мацнейшы за мужчыну-жывёлу. Каб не застацца бяздоказным, згадаю выпадак. Пад вокнамі Дому друку стаіць грузавік, поўны кніжак. Шафёр чытае. Нам з Максімам Клімковічам карціць даведацца, што за літаратура цікавіць шафёра, у якога поўны кодаб кніжак. Ідзем і глядзім — зборнік Раісы Баравіковай "Каханьне".

## 1998. Ніна Кавецкая і раяль

Дзед піяністкі Ніны Кавецкай будаваў у Кітаі электрастанцыі. На сьценах у Кавецкіх вісяць вышываныя шоўкам карціны зь відамі тых пабудоў. На зароблены ў Азіі грошы інжынэр-будаўнік набывае чорны канцэртны раяль для сваёй любімай дачкі — Нінінай маці. Раялем ганарыцца ўся сям'я. Праслухаць канцэрт у менскай кватэры — раскоша. Няшмат у нас кватэраў з раялямі. Няма традыцыі сямейных і элітарных канцэртаў. Затое творчая інтэлігенцыя часта бяднее. Зьбяднела й сямья Кавецкіх, аж да таго, што вырашае раяль прадаць. Даецца абвестка ў газэту. Пакупнік зьяўляецца адразу. Чорнае паліто да абцасаў, стрыжка "вожык", сотавік з пазыўнымі палянэзу, твар стомленага баксёра — новы рус. Кажа, што жонка хоча ў катэджы мець раяль. Дае палову названай сумы. Абяцае забраць інструмэнт празь месяц і зьнікае назаўжды. Праз тры гады Ніна распавядае мне гісторыю з фамільнай рэліквіяй і бядуе, што яе сын больш любіць спорт, чым музыку.

## 2000. Вольга Сокал і Дамавікі

Прыхільніц маіх літздольнасьцяў значна больш, чым шанавальніц майго маляваньня. Але ёсьць, ёсьць і аматаркі графікі. Найпершая зь іх — Вольга Сокал. Яна прыходзіць і кажа: "Пакажы новыя малюначкі". Мы разглядаем аркушы. Адзін зь іх Вольга так упадабала, што перамалёўвае на ўсю сьцяну ў спачывальні. Малюнак досыць фрывольны. Называецца "Каханьне вялікіх". На ім Дамавік творыць акт з жанчынаю. Там, дзе мусяць быць палавыя органы каханкаў, Вольга прымацоўвае лямпачкі. Нечаканае рашэньне як для мяне, так і для астатніх, асабліва для Вольжынага мужа — журналіста Пятра. Можа, каб Вольга ведала беларускую мову і чытала маю прозу, яна менш захаплялася б графікаю і не перамалёўвала б на сьцяну "Каханьне вялікіх", але наша мова ёй не даецца. "Валодзя, што такое "кавала́чак"?" — "Няма ў нас такога слова — "кавала́чак". — "Як няма? Над гастраномам вялікімі літарамі напісана". — "Гэта "кава́лачак" — кусочак". Так на кожным кроку... Не жывецца Вользе ў Менску, і яна зьяжджае, вяртаецца ў Маскву, дзе нават *McDonald's* пішуць "Макдоналдз". Дамавік застаецца на сьцяне ненадоўга, бо перад ад'ездам Вольга прадае кватэру іншаму графіку па мянушцы Гатавальня. Гатавальня, бо безь лінейкі ня можа намаляваць ніводнай працы. Гэты Гатавальня, сапраўднае прозьвішча Басалыга, вельмі мяне ня любіць. Ён узначальвае Саюз мастакоў і да калегаў мусіць ставіцца хоць бы нэўтральна, а ён просіць Заслонава і Вашкевіча даць мне ў морду, і, вядома, не за малюнкі, а за літаратуру. А тутака мой малюнак на ўсю спачывальню. "Глёбусаў малюнак? — пытае мастак-старшыня. "Так", — запэўнівае Вольга, хоць ведае, што на сьцяне копія. Падманваць падчас гандлю — абавязковая неабходнасьць. Дарую Вользе падман. Як дарую Гатавальні слова: "Зафарбую!". Ягоная спачывальня. Хоча — няхай сякерай дзяўбе, хоча — зафарбоўвае, хоча — шпалерамі заклейвае... Толькі Дамавік — ён нязводны, калі пасяліўся, дык лепей зь ім сябраваць. Ці сябруе жонка Гатавальні з Дамавіком, не пытаўся. Нагоды не было. Вольга Сокал таварышуе з Дамавікамі і ў Маскве, я ёй шмат надарыў розных нячысьцікаў.

Адам Глёбус і Вольга Сокал

## 2001. Галіна Каржанеўская і ўтульнасьць

Літаратарка Галіна Каржанеўская публікуе ўрыўкі дзёньнікавых запісаў. Чытаю і лаўлю сябе на думцы, што жаночыя занатоўкі ўтрая цікавейшыя за мужчынскія. Гадоў дваццаць я гартаю Сэй Сёнаган і Мурасакі Сікібу дзеля асалоды, а Буніна з Прышвіным, як і татавы запісы, разгортваю ў цяжкія хвіліны. Якія ўсё ж мы, мужчыны, змрочныя, цяжкія і непразрыстыя! Пішам, нібыта камяніцы будуем, нібыта фартыфікацыйныя збудаваньні ўзводзім. А жанчыны, як тая Галя Каржанеўская, і ў казарме спрабуюць абмаляваць утульны куточак.

## 2001. Вэраніка Казлова і чадра

З Ташкенту праваабаронца Вэраніка Казлова піша: "Набыла чадру, прымерыла. Ніколі не адчувала сябе такой абароненай ад сьвету, ад усяго варожага й кепскага". Вэраніка лічыць найвялікшым глупствам змаганьне супраць чадры як сымбалю прыніжэньня жанчыны Ўсходу. Уяўляю Вэраніку ў чадры — вельмі сэксуальна. Можа, прапагандаваць чадру? Ну вось яшчэ... Нашыя Вэранікі і без чадры эратычныя.

## 2001. Алена Васілевіч і пісаньне

Тактоўная літаратарка Алена Васілевіч піша: "Я — сама па сабе". Як бы я хацеў быць *сам па сабе*. Жыў бы без тусовак, гурткоў, таварыстваў, саюзаў, клюбаў... Пісаў бы сваё дзеля сябе, пісаў бы лісты ў мінулае да Сафо, да Буніна, да Багдановіча... Чакаў бы адказаў. І казаў бы, як Алена Васілевіч, што большасьць з напісанага ляжыць ненадрукаваным.

## 2002. Таіса Бондар і званы

Рэдактарка Таіса Бондар жыве пад лёзунгам "Трэба біць у званы!!!" Зьмяняецца краіна, дыскурс і гады, а тэмпэрамэнт Бондар застаецца нязрушным — гудуць публіцыстычныя званы. Можна пазайздросьціць энэргіі, актыўнасьці, неўтаймаванасьці, якой валодае Таіса.

## 2002. Зоя Ліцьвінава і прабачэньне

У СССР мужыкі больш патрэбныя, чым бабы. Жанчыне, каб прабіцца ў людзі, трэба станавіцца "Бабай зь яйцамі". Даруйце. Праўда такая савецкая. Зою Ліцьвінаву так за вочы і клікалі — "мужык у спадніцы". Цяпер мужчын у спадніцах называюць драг-куінамі, і яны маюць сваіх прыхільнікаў у мастацтве. Але я не пра тое... Цікава, ці папросіць хто з саўдэпаўскіх мужычкоў у Зоі прабачэньня? Калі не, я прашу за ўсіх. Даруйце, Зоя. Вы — жывапісная жанчына.

Алена Васілевіч

Таіса Бондар

## 2002. Алаіза Пашкевіч і кветкі

Ой кабеты, ой вясковы,
Ой вы — кветкі прызавяты!
Ой, лілейкі вы бяз мовы,
Ой вы, птушкі бескрылаты!..

Так у 1908 г. піша пра сясьцёр-беларусак Алаіза Пашкевіч, наша Цётка. Гэта любімы мой верш зь яе спадчыны. Дзякуючы яму я амаль не дару жанчынам кветак, спыняе ён мяне. Чаравікі, кнігі, малюнкі, грошы, пярсьцёнкі з дыямэнтамі дару, а кветкі — не, бо прызавяты.







## Паштовая скрынка

**Сяргею Б. з Гомелю.** Праблема, узьнятая ў Вашых "Простых словах", надуманая, таму і нарацыя вязьне ў мудрагелістым самакапаньні. Больш прадметнасьці, калі ласка.

**Васілю А. з Магілёва.** У перадапошніх "Абразках" дэфіцыт прадметаў, рэчаў, матэрыі. Унутраны сьвет аўтара і сацыяльны аналіз у выбраным Вамі жанры ня здатныя кампэнсаваць адсутнасьць карцінак жывое рэчаіснасьці.

**Паўлу С. зь Менску.** Апавяданьне Ваша дарэшты жыцьцёвае. Можа, таму мастацкасьці ў ім не хапае.

**Міле Н. з Гомеля.** Джойс не таму быў вялікі, што нібыта бессыстэмна запісваў усё, што ў галаву ідзе, а таму, што здолеў стварыць дублінскі кантэкст, адлюстраваць ірляндзкае сьветаадчуваньне. З вашае замалёўкі пра сябра й піцу ніякага кантэксту не відаць.

**Прадзеду і Праўнуку зь Менску.** Вершаў па-расейску не друкуем. Па-беларуску ўзялі б.

Жарт






НАША НІВА

незалежная газэта

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920). С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**



Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 850 ад 20 чэрвеня 2001 г., выдадзенае Менскім гарадзкім выканаўчым камітэтам. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3795.

Нумар падпісаны ў друк 28.02.2002.

Замова № 1287.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а